PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 29 (1940) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 18 ЛІПЕНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ГАРАДОК ПЕРАД „БАСОВІШЧАМ"

*— Што? Што такое?*
*— Ці чулі вы пра „Басовішча", — паўтараю пытанне для 80-гадовай з выгляду бабулькі на рыначку ў Гарадку.*
*— Я то нічога не чула, бо я глухая як пень.*

### Дзе папіць піва?

Без вырашэння гэтага жыццёва важнага пытання немагчыма падавацца на агляд Гарадка. Асабліва ў душны чэрвеньскі дзень.

— Піва ў нас, Коленька, колькі хочаш і дзе хочаш, — сказала Тамара Бурачэўская, дырэктар Гміннага асяродка культуры, у якое шукаў я парады.

Гэта праўда, тым не менш, пастаянных удзельнікаў „Басовішча", якія Гарадок наведваюць адзін раз у год, чакае вялікае расчараванне. Мясцовая ГСаўская гаспода „Яжамбінка" зачыненая ўжо ад зімы. Каб яна выходзіла на сваё, такіх „Басовішчаў" у Гарадку трэба было б арганізаваць мо з пяць у год. За гры ліпеньскія дні гандлёвы абарот гасподы быў такі, як за паўгода ў астатні час.



*Восемдзесят працэнтаў працаўнікоў "КАРО" — жанчыны.*



*Солтыс Мікалай Адамік: „Чакаем ‹Басовішча›".*

У кавярні „Сэранада", што каля прадпрыемства „Каро", піва ёсць, але толькі безалкагольнае. Затое спаткала мяне там мілая неспадзяванка. Летась упарта не разумелі там маёй беларускай мовы, а сёлета нават адказвалі па-беларуску. Што з таго, можна запытацца, калі піва безалкагольнае. Але паабяцалі — на „Басовішча" будзе нармальнае.

### Пра „Басовішча" ведаюць і ў Міхалове

Пераконваюся ў гэтым, пытаючы сустрэчных на вуліцы. „Зразумела, што паедзем" — заяўляюць дзве высокія, загарэлыя бландзінкі ў міні-спадніччках, даўжынёю, як кажа адзін мой сябра, па пуп.

Аднак з'есці абед з півам — бо дзеля гэтага ехалі мы з Гарадка ў Міхалова — не ўдаецца і тамака. Міхалоўская гаспода, калі меркаваць па выглядзе сцен і вокан, была зачынена намнога раней за гарадоцкую.

☞ *Працяг на стар. 6*

## БРУДЭРШАФТ ВАЛЭНСЫ І ШУШКЕВІЧА

Будучы ў складзе Дзяржаўнай дэлегацыі Польшчы, якая напрыканцы чэрвеня наведала Рэспубліку Беларусь, маю нагоду даць чытачам „Нівы" інфармацыю з першых рук. Нас, беластоцкіх беларусаў, было тады — зрэшты— двое: Старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Алег Латышонак з'яўляўся перакладчыкам Прэзідэнта Леха Валэнсы.

Пасля цырымоніі ўрачыстага прывітання на мінскім лётнішчы адбылося ўскладанне вянка да абеліска Перамогі, што ў цэнтры беларускай сталіцы. Выкарыстала гэта невялікая група тутэйшых палякаў, нешта балаганна выкрыкваючы. Сярод іх, дарэчы, быў і граф Прушынскі з Канады, постаць у роўнай меры таемная і смешнаватая — хоча ён стацца прэзідэнтам Беларусі... Тварy некаторых членаў дэлегацыі іранічна крывіліся; чуласяя перашэпты, што Валэнса непатрэбна падышоў быў да тых дэманстрантаў, лішне рызыкуючы гэтым у наладжанні добрых адносінаў Польшчы з Беларуссю.

Праз квадранс пачаліся афіцыйныя перамовы. Дэлегацыя падзялілася на асобныя праблемныя групы, а Лех Валэнса і Станіслаў Шушкевіч перайшлі ў асобны апартамент для гутаркі адзін на адзін (беларускі прэзідэнт ведае польскую мову).

Я прымаў удзел у супольным, польска-беларускім пасяджэнні па пытаннях культурнага супрацоўніцтва. Польскі бок узначальваў Анджэй Закжэўскі, статс-сакратар па палітычнай абслузе Прэзідэнта Рэчы Паспалітай, а беларускі — віцэ-прэм'ер Міхал Дзямчук. Агульнай гаворкі адбылося няшмат. Культура — гэта не тая сфера, на якую ўлады могуць мець цяпер вялікі ўплыў ва ўмовах пераходу да рынaчнай эканомікі. Затое сказана нямала канкрэтнага наконт культурнай сітуацыі нацыянальных меншасцяў — беларусаў у Польшчы і палякаў у Беларусі, — магчымасці духоўнага развіцця якіх пераважна залежаць ад фінансавага ўспамажэння дзяржавою. Мне, як беларусу прыкра было чуць, што Рэспубліка Беларусь практычна не прызначае істотных сумаў на падтрыманне польскай там нацыянальнай дзейнасці. І для параўнання — нашы, беларускія, арганізацыі на Беласточчыне ўвесь час няблага фінансуюцца Варшаваю (на гэты год, прыкладна, атрымаюць яны разам каля трох мільярдаў злотых!). Потым Валэнса заўважыць на прэс-канферэнцыі, што так далей не можа быць, каб толькі адзін бок выконваў узятыя на сябе абавязацельствы ў выніку падпісанага годам назад дзяржаўнага трактата паміж Польшчай і Беларуссю; менавіта апекавацца нацыянальнымі меншынямі.

Віцэ-прэм'ер Дзямчук асабліва цікавіўся пабудовай Беларускага музея ў Гайнаўцы (дапамога тут ад яго ведамства даволі значная, перш за ўсё ў будаўнічых матэрыялах). Няновая гэта тэма ды, наогул, новых пакуль не было; беларускі бок выразна слабей падрыхтаваўся да перамоваў, ініцыятыву да канца ўтрымалі палякі, маючы пры тым і больш аргументаў. У гэты момант, як быццам хвіліннага зацішку, вырашыў я выступіць з нечуванай імі ідэяй утварэння ў Беластоку ўрадавага Цэнтра беларускай культуры, які складаўся б з трох галоўных сектараў: даследчага інстытута, выдавецкага дома, і папулярызатарскіх штатных структураў. Кошт таго шматмільярдны, таму не пад сілу ён аднаму польскаму ўраду, патрэбна зацікаўленне і беларускага. З нікім я не ўзгадняў сваю прапанову, і таму чакаў якогасьці супрацыву ў асяроддзі нашай дэлегацыі, не кажучы пра посткамуністычную беларускую (яна безупынна падкрэслівала бядотнае становішча Рэспублікі). Але, на маё прыемнае здзіўленне, палякі — м. ін. віцэ-міністр культуры Міхал Ягела — дружна падтрымалі маё выказванне, пры маўклівым, на жаль, рэагаванні беларускага боку, хоць прыканцы і адтуль нешта неакрэсленае паабяцалі. Усё ж добры пачатак: справа ўжо пастаўлена на міждзяржаўным форуме і да яе будуць вяртацца нават іншыя палітыкі, як здарылася тое з тым жа Беларускім музеем ці бо з перадачаю Праваслаўнай Царкве ў Польшчы комплексу пасляманастырскіх будынкаў у Супраслі („ашаломныя" польскія газеты правакацыйна зрабілі з гэтага тэму нумар адзін у час візіту Прэзідэнта ў Мінск, вядома, каб паслабіць ягоную пазіцыю ў рымска-каталіцкім народзе палякаў).

Адначасна праходзілі гэтаксама камісійныя перамовы па эканамічных і палітычных пытаннях.

Што можна сказаць пра галоўную мэту прыезду Валэнсы ў Беларусь? Напэўна не з'явіліся ёю нацыянальныя меншыні, хоць іх патрэбы важныя і прыдавалі своеасаблівага каларыту. На маё адчуванне, Польшча баіцца неакаланіяльнага вяртання Расіі ў Гродна і Брэст, дакладней — цалкавітага ўмацавання яе ўплываў. Такога страху няма на ўкраінскім напрамку, альбо і літоўскім; лепей мець свабодных суседзяў, чымсьці вялізную побач і хамаватую імперыю. Прычым на

☞ *Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Нет, всё-таки никаким Беловежским пущам не разъединить славянские народы, их единое духовное пространство. Именно в Белоруссии это чувствуется особенно отчётливо. И чем больше времени проходит с того предательского пиршества Ельцина, Кравчука и Шушкевича, тем отчётливее неотвратимость их ответа за преступление перед нашими народами, нашей историей, нашей культурой. (...)*

*Начиная с 1985 года в Советском Союзе сатана правит бал. Разгневанный Бог всё время подавал сигналы — землетрясение в Армении невиданной разрушительной силы, Чернобыль на Украине, Ельцин в Росии. И только Белоруссию он оберегал до последнего времени. Так нет, осквернили, затащили в свои адские сети — Беловежская пуща войдёт в историю нашего государства как самая кровавая её страница. (...)*

*У нас вообще первый признак „демократа” — говорить только на белорусском языке, в то время как все нормальные люди предпочитают использовать как русские, так и белорусские слова. (...)*

*Запад завоёвывает „жизненное пространство”, раздирая по клочкам тот огромный континент, который совсем недавно назывался Советским Союзом, а ещё раньше Россией. При всём национальном своеобразии, политическом неоднородстве мы всё остаёмся Российской империей. (...)*

*(День, н-р 17(97), інтэрв'ю з беларускімі мастакамі Міхаілам Савіцкім і Андреем Савіцкім)*

А далей ідзе тое, чаго можна спадзявацца: усяму вінаватыя яўрэі, якія падзялілі *неделимую* і здзекваюцца над усімі славянамі, гэта значыць, рускімі. Усе нармальныя людзі, што карыстаюцца рускім словам з прымессю беларускага, вядома ж, возьмуць верх у Белоруссии, і пашлюць к чёртовой матары ўсіх гэтых „демократов”, что предпочитают белорусский язык. І ў гэтым ім дапамогуць нармальныя мастакі, народныя мастакі СССР і БССР.

* * *

*Нядаўна Міхал Белямук, які жыве ў Клііўлендзе (ЗША), атрымаў з Інстытута гісторыі беларускай Акадэміі навук ліст наступнага зместу: „Мы маем гонар паведаміць, што рашэннем вучонай рады інстытута... за навуковыя распрацоўкі пытанняў сфрагістыкі, геральдыкі, складання збору манетна-рэчавых скарбаў IX-XI стагоддзяў з тэрыторыі Беларусі, актыўную дзейнасць па распаўсюджванню ведаў па беларускай гісторыі і ўклад у справу выдавання гістарычнага часопіса „Полацак” Вам нададзена званне ганаровага члена інстытута”.*

*(Звязда, н-р 116)*

Вось як змяніўся час. А яшчэ нядаўна (гэта значыць, у другой палове васьмідзесятых), з-за М. Белямука ляснула журналісцкая кар'ера Міколы Гайдука. Калі спадар Гайдук меўся стаць галоўным рэдактарам „Нівы”, БГКТ выставіла яму паскудную рэкамендацыю: маўляў, М. Гайдук як рэдактар аднаго з „Беларускіх календароў” змясціў артыкул фашыстоўскага прыхвасня Міхала Белямука, таму ідэалагічна ён не адпавядае пасадзе кіраўніка „Нівы”. Вось табе на!

* * *

*Цяпер халопства хапае і ў нас. Напрыклад, у маёй галіне, у філасофіі: што ні напішы, ні выдай на Беларусі, ніхто на гэта не спасылаецца, дый нават не чытае. Калі ж тое самае, ці нават горшае, выдадзена ў Маскве — яму ўся ўвага. А ўжо калі на Захадзе...*

*(Звязда, н-р 121, з гутаркі з філасафам Міколам Крукоўскім)*

Рацыя, пэўна, у гэтым ёсць. Але з другога боку — навошта ў Беларусі пісаць пра тое, пра што пішуць у Маскве, або на Захадзе?

* * *

*Polska prowadzi dziwną politykę — mówi szef „Pronaru” (Sergiusz Martyniuk — red). — Od Wschodu odwraca się plecami. Holendrzy, Niemcy i Belgowie mają już za Bugiem silne przyczółki. Niebawem opanują rynek. Na co my czekamy? Już teraz jesteśmy opóźnieni o kilka lat. Dystans się powiększa. Wschód to partner niewybredny. Z tym, co w Polsce produkujemy, na zachodzie mamy nikłe szanse. Były ZSRR weźmie od nas prawie wszystko.*

*(Gazeta Współczesna, nr 126)*

Na razie.

* * *

*Wprowadzenie VAT-u jest konieczne z dwóch powodów, wynika z traktatu Stowarzyszeniowego z EWG, w którym Polska zobowiązała się do uporządkowania swojego systemu podatkowego i przystosowania go do rozwiązań zachodnioeuropejskich. Po drugie, VAT uważany jest za najlepszy z podatków (nie wpływa na zawyżenie kosztów; kto więcej kupuje, więcej płaci).*

*(Gazeta Współczesna, nr 126)*

А нам здавалася, што і да гэтай пары было таксама: хто больш купляе, той больш плаціць. Аказваецца, не. Штодня ў тым капіталізме чалавек вучыцца чагосьці новага.

# З мінулага тыдня

**З 1 ліпеня г.г. урад Беларусі адмяніў большасць выдаваемых яго прадстаўніцтвамі ліцэнзій на міжнародны бартэрны тавараабмен.** „Ліцэнзіі патрэбны яшчэ пры абмене некалькімі таварамі, напрыклад, рэдкімі металамі, карбамідам, драўнінай”, — паінфармаваў **Мікалай Петрушкевіч** з Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы. У 1992 годзе Польшча па асартыменце і колькасці тавараабмену, які дасягнуў амаль 250 мільёнаў долараў, была самым вялікім гандлёвым партнёрам Беларусі. У апошнім паўгоддзі гэтае месца заняла Нямеччына. За гэты перыяд беларускі гандлёвы абмен з ёю склаў суму 105 млн. дол., а з Польшчай — толькі 57 млн. дол. На думку М. Петрушкевіча, спад гандлю з Польшчай выкліканы, між іншым, неабходнасцю атрымаць на Беларусі ліцэнзіі на гандаль дэфіцытнымі таварамі і абыходжаннем беларускімі фірмамі, якія гандлююць з Нямеччынай, польскага пасрэдніцтва. Мае значэнне і той факт, што немцы ахвотна плацяць наяўнымі грашыма, калі палякі схіляюцца да бартэрнага абмену. Беларусь традыцыйна прадае Польшчы ўгнаенні, халадзільную апаратуру, сельскагаспадарчае і дарожнабудаўнічае абсталяванне, прэцызійныя прыборы, а таксама мазут, тэкстыльныя паўфабрыкаты і трактары. Напрыклад фірма „Пронар” з Нарвы на працягу дзесяці гадоў будзе манціраваць у сябе каля 1000 беларускіх трактароў у год. У Варшаве неўзабаве будзе створаны польска-беларускі банк для разлікаў узаемных гандлёвых здзелак, а ў жніўні пачне дзейнічаць марская кампанія па перавозе тавараў.

**Прадстаўнікі арганізацый нацыянальных меншасцяў у Польшчы** сустрэліся з заступнікам грамадзянскіх правоў праф. **Тадэушам Зялінскім**. Сустрэча была наладжана па ініцыятыве Хельсінскага камітэта з мэтай пазнаёміць праф. Т. Зялінскага з праблемамі нацыянальных меншасцяў, узгодніць аб'ём праблемаў, якія ў справе нацыянальных меншасцяў можа ўзнімаць заступнік, а таксама ўстанавіць формы бягучых кантактаў меншасцяў з установай заступніка. Удзельнікі сустрэчы (прадстаўнікі нямецких, украінскіх, яўрэйскіх і цыганскіх суполак) звярнулі ўвагу на тое, што выпадкі дыскрымінацыі нацыянальных меншасцяў у Польшчы датычаць найчасцей праблемаў з галіны школьніцтва, асветы і культуры, вяртання маёмасці і сакральных аб'ектаў, а таксама адносін дзяржаўнай і самаўрадавай адміністрацыі да пытанняў меншасцяў.

**Літоўская нацыянальная меншасць у Польшчы** (каля 30 тысяч чалавек), якая пражывае ў паўночна-ўсходняй частцы Сувальскага ваяводства, не будзе вылучаць сваіх кандыдатаў у верасьнёўскія парламенцкія выбары. Старшыня Таварыства літоўцаў у Польшчы **Эўгеніюс Петрушкевічус** заявіў, што адсутнасць літоўскіх кандыдатаў не абазначае байкоту выбараў літоўцамі; наадварот, Таварыства заклікае іх прыняць удзел у галасаванні, што будзе пасведчаннем „грамадзянскай спелацсі літоўскай меншасці ў Польшчы”. Ён лічыць, што нацыянальныя меншасці павінны мець гарантаванае законам права на сваіх дэпутатаў у парламенце. Паводле старшыні, цяпер у Польшчы, з увагі на сціпласць літоўскай грамадскасці, няма шанцаў, каб іх кандыдат мог стаць парламентарыем, хаця гэта не абазначае, што ім нельга балаціравацца са спіскаў палітычных партый.

**На XXXI сесіі Гарадской рады ў Гайнаўцы** разглядалася прапанова Рэвізійнай камісіі Рады аб вотуме недаверу для Управы горада. У тайным паіменным галасаванні радныя адклікалі трое членаў Управы, у тым ліку **Мечыслава Гмітэра** — бургамістра горада.

Ваяводскі суд у Варшаве адмовіў у рэгістрацыі партыі **Абсурдная акцыя.** Паводле статута членамі АА могуць стаць людзі, жывёлы і... прышэльцы з іншага свету.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- З "Раялем" праз мяжу.
- Бурлівае пасяджэнне Гарадской рады ў Гайнаўцы.
- З'езд беларусаў у Менску.
- Клопаты гаспадара з вёскі Чараўкі

**Сяброўцы**

**ЯЛАНЦЕ ВІШНЕЎСКАЙ**

**глыбокае спачуванне з выпадку напаткаўшага Яе гора —**

**смерці Бацькі**

**— выказвае Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і Праўленне аддзела БГКТ у Гайнаўцы**

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### РУБЕЛЬ — УСЯМУ ГАЛАВА, А БЕЛАРУСКАМУ СУВЕРЭНІТЭТУ — ТРУНА

Пасля двухтыднёвага напружання жыхары Беларусі, нарэшце, з палёгкай уздыхнулі: грашовай рэформы пакуль не прадбачыцца.

Такім чынам расейскі рубель застаецца паўнапраўным фінансавым гаспадаром на тэрыторыі суверэннай Беларусі. Аб гэтым стала вядома пасля візіту прэм'ер-міністра рэспублікі Вячаслава Кебіча ў Маскву. Урад Расеі згадзіўся прадставіць Беларусі семдзесят пяць мільярдаў рублёў у выглядзе тэхнічнага крэдыту. Фінансавы крызіс урада Кебіча ўдалося адцягнуць яшчэ на некалькі месяцаў. А потым?

Зрэшты, заглядваць у будучыню кіраўнікі выканаўчай улады рэспублікі не хочуць, бо нічога радаснага і абнадзейваючага там няма. Запазычанасці растуць як на дражджах. І выплачваць іх давядзецца, відаць, не толькі нашым унукам, але і праўнукам.

### РУКА МАСКВЫ БОЛЕЙ НЕ ЎЛАДАРЫЦЬ

Усяго за дзевяць месяцаў напісаны і падрыхтаваны да друку 22 дапаможнікі па гісторыі і геаграфіі Беларусі, якія на некаторы час заменяць настаўнікам і вучням падручнікі.

З выхадам у свет першай ластаўкі серыі — „Гісторыі Беларусі для 5—6 класаў” — звязваюць аднаўленне ў рэспубліцы ўласнай гістарычнай школы, бо раней усе „ідэалагічныя” падручнікі ствараліся ў Маскве, якую, відавочна, мала непакоіла нацыянальная свядомасць беларусаў. Цяпер жа нацыянальная і сусветная гісторыя будуць выкладацца ў сярэдняй школе з пазіцый нацыянальна-дзяржаўнай гістарыяграфіі з абавязковым разглядам нявырашаных і дыскусійных пытанняў.

### ПАРТЫЯ САПРАЎДНЫХ МУЖЧЫН

На арэне грамадскага жыцця Беларусі, дзе прынамсі няма ўжо як яблыку ўпасці, паявілася новая палітычная арганізацыя — Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці (РППС).

Гэтае аб'яднанне левацэнтрысцкіх сілаў выступае за пабудову грамадства роўных магчымасцей і сацыяльнай абароненасці пры эканоміцы змешанага тыпу. Праграма нованароджанай партыі не вылучаецца арыгінальнасцю: сярод запазычаных у папярэднікаў пунктаў уласна створаны хіба толькі адзін — патрабаванне ўстанаўлення шасцігадзіннага працоўнага дня для жанчын.

### БЕЛАЯ, БЕЛАЯ — ЧЫСТАЯ, ЧЫСТАЯ

Сапраўды, няма прарока ў сваёй айчыне. Пакуль беларускія аматары моцных напіткаў глытаюць слінкі, пазіраючы на паліцы крамаў з нямецкай „Смірноф” і шведскім „Абсалютам”, а людзі больш простыя адстойваюць вялікія чэргі па лімітаваную расейскую „Сталічную” і „Маскоўскую”, адзін з амерыканскіх „камерсантаў” у выніку закрытай дэгустацыі робіць выснову аб тым, што айчынная „Белая Русь” — самая чыстая гарэлка ў свеце.

Калі гэтыя дадзеныя атрымаюць шырокую агалоску ў свеце, замежным аматарам беларускай гарэлкі можна толькі паспачуваць. Бо наўрад ці ў хуткім часе з'явіцца яна там — на менскім заводзе „Крышталь” для сапраўднага выхаду на сусветны рынак няма бутэлек, якія б адпавядалі міжнародным стандартам.

### І КВЕТКІ, І ДА КВЕТАК

Падчас візіту прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсы і яго жонкі Данюты Беларусь яшчэ раз пацвердзіла свае правы называцца адной з самых гасцінных краін у свеце.

Цяпер у прэзідэнцкім палацы ў Варшаве кветкі будуць стаяць і ў вазах, якія падарылі абаяльнай Данюце прадстаўнікі Менскага фарфоравага завода, а абраз Будслаўскай Божай Маці — заступніцы Беларусі — заўсёды будзе нагадваць першай ледзі Польшчы аб набажэнстве ў кафедральным саборы на плошчы Свабоды ў сталіцы Беларусі — касцёле святога Феліцыяна.

### ДАРАГАЯ МАЯ ГРАНІЦА

З наданнем беларускім граніцам статуса дзяржаўных, праблем у беларускіх пагранічнікаў значна пабольшала.

Замест прывычных 17—18 пагранічнікаў на 1 квадратны кіламетр у нас цяпер прыпадае ўсяго 3—4, таму колькасць пагранічных войскаў Беларусі за паўтара года плануецца павялічыць з 8 да 12,5 тысяч.

Праўда, паміж Беларуссю і краінамі Прыбалтыкі і Украіны не будзе звыклых „атрыбутаў” — калючага дроту і кантрольна-следавай паласы, а з Расіяй увогуле граніца застаецца адкрытай.

Дарэчы, пошук і затрыманне аднаго парушальніка абыходзіцца рэспубліцы ў 80 — 100 тысяч рублёў, а сярод 600 затрыманых у мінулым годзе не было ніводнага шпіёна ці дывэрсанта. Пагранічнікам даводзіцца змагаца галоўным чынам з нелегальнымі „камерсантамі” — аматарамі заходніх ласункаў.

### БУДЗЕМ БЕЗ ХЛЕБА?

Прыкладна, 2,6 мільёна гектараў збожжа павінны будуць убраць сёлета земляробы рэспублікі.

Па прагнозах Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі, чакаецца недабор як азімых, так і ярavых. Падножку на старце падставіла Беларусі Расея, якая затрымалася з пастаўкай угнаенняў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПАНАРАМА КЛЯШЧЭЛЕЎСКАЙ ГМІНЫ

## КАЛІСЬЦІ

Ранейшая іх гістарычная іх назва — Кляшчэльчы. Гэтая мясцовасць знаходзіцца над невялікай рачулкай Нурэц. У актах ад 1568 года значыцца, што ў Кляшчэлях быў рынак і пятнаццаць вуліц. Вакол горада, на рэчках Нурэц, Елянка (цяпер Арлянка) і Добра Вада знаходзіліся 23 млыны.

Кляшчэлеўская ратуша згарэла 10 красавіка 1631 года.

У актах згадваецца шкляная гута (1758 год).

Пры царкве св. Міколы ў Кляшчэлях амаль ад пачатку яе існавання дзейнічала парафіяльная школа, у якой на працягу стагоддзяў вучыліся дзеці.

У XVIII стагоддзі Кляшчэлі налічвалі 1888 жыхароў, якія займаліся пераважна сельскай гаспадаркай. Славіліся яны вырошчваннем, між іншым, агуркоў і хмелю.

У 1878 годзе ў Кляшчэлях жыло 1750 чалавек, у тым ліку 861 мужчына і 889 жанчын. Каля 1900 года ў горадзе жыло 1980 чалавек. Пасля першай сусветнай вайны, у выніку эвакуацыі праваслаўнага насельніцтва ў глыб Расіі, лік насельніцтва зменшыўся. У 1921 годзе ў Кляшчэлях былі 1452 жыхары. У 1931 г. колькасць жыхароў павялічылася да 2053 чалавек. Другая сусветная вайна прынесла вялікія страты: загінула многа насельніцтва, мястэчка на 20% было знішчана.

У 1950 годзе Кляшчэлі страцілі гарадскія правы.

## СЁННЯ

Каля вялікага каменя-валуна (глядзі малюнак) разыходзяцца дарогі: адна ў Гайнаўку — 25 кіламетраў, другая ў Бельск-Падляшскі — 24 кіламетры. Яшчэ сто метраў асфальтаванай шашы, абапал якой растуць таполі, ліпы ды вербы, і перад намі пасёлак Кляшчэлі. Дзве цэрквы, касцёл. Зараз у склад гміны ўваходзяць пятнаццаць салэцкіх вёсак, у тым ліку найбольшая з іх — Кляшчэлі і найменшая — Пятроўшчына.

У гміне жыве 3675 чалавек, у тым ліку 1782 мужчыны і 1893 жанчыны. Найбольшыя вёскі гэта: Кляшчэлі — 1645 жыхароў, Дашы — 422, Палічна — 289, Дабрывада — 287 і Сухавольцы — 264. Для параўнання: у 1981 годзе ў гміне жыло 4560 чалавек, з іх 2314 у Кляшчэлях. Колькасць жыхароў у гміне з года ў год памяншаецца. Амаль усе маладыя людзі падаюцца ў гарады. Многа моладзі вучыцца ў беластоцкіх, бельскіх і гайнаўскіх сярэдніх школах, ва універсітэтах, акадэміях і ў іншых вышэйшых навучальных установах. У вёсках штораз больш пенсіянераў.

Тут не найлепшыя землі, таму сеюць найбольш жыта, аўса і бульбы. Надта мала ў гміне пшаніцы, яшчэ менш прамысловых раслін, між іншым рапсу, цукровых буракоў і ільну.

Найбольш заможнымі ў маштабе гміны з'яўляюцца вёскі Дашы і Сухавольцы. Яны прадаюць дзяржаве найбольш малака, убойнай жывёлы, бульбы і збожжа. Сухавольцы — да таго самая прыгожая вёска ў Кляшчэлеўскай гміне. У ёй 90 дамоў, з якіх толькі дзесяць драўляных. На вуліцы асфальт, а ўздоўж яе прыгожыя платы. Сухавальчане многае што робяць у грамадскіх пачынах. Так было, калі солтысам быў Васіль Гілеўскі, так ёсць і цяпер, калі ўжо дзевяты год солтысам з'яўляецца Мікалай Якубоўскі.

Дагэтуль найбольш дынамічна праходзілі перамены ў вёсках, найменш іх адбылося ў самой сядзібе гміны — Кляшчэлях. Мода на будаванне мураваных дамоў не расцвіла тут так буйна, як у вёсках. Асталіся яны старым, даўнім, ціхім паселішчам з бурлівым па панядзелках рынкам. А ў цэнтры высяцца атуленыя старымі дрэвамі беласценная царква і стромкі касцёл. Побач царквы ёсць невялічкі, утульны парк. Тут пачалі будаваць вялікі гмінны асяродак культуры, але цяпер мае быць у гэтым будынку падставовая школа.



Ад галоўнай, шырэйшай каля царквы і парку, вуліцы, адыходзяць вузенькія вулачкі. Абапал бакавых вулачак сядзяць старыя драўляныя домікі з малымі акенцамі і шчыльнымі аканіцамі, якія за высокімі дашчатымі платамі хаваюць сваю цішыню і задуменнасць.

Да нашых часоў захаваліся, між іншым, 34 жылыя дамы з другой паловы і з канца XIX стагоддзя. Сустрэць іх можна па вуліцах: Боцькаўскай, Дабрыводскай, Вакзальнай, Касцельнай, 1 Мая, Міцкевіча, Пушкіна, Свярчэўскага, Каперніка ды пры паркавым пляцы. Арыгінальным па сваёй архітэктуры з'яўляецца мясцовы драўляны вакзальны будынак канца XIX стагоддзя.

Няма ўжо ў Кляшчэлях колішніх славутых ганчароў, вырабы якіх былі вядомы па ўсяму Падляшшы. Няма корчмаў, дзе можна было выпіць кварту пеністага піва. Ёсць яшчэ некаторыя рамесніцкія майстэрні, але і іх з кожным годам усё менш і менш.

З адыходам старэйшага пакалення знікае тое, што цэлыя стагоддзі стваралася народам. Наступае заняпад традыцыйнага народнага мастацтва і абраднасці. Цяпер ужо надта рэдка здараецца пачуць каларытныя тутэйшыя вясельныя і хрысцінныя песні, спевы на ўсялякую нагоду. Адно няшмат іх запісалі на магнітафонныя стужкі. Крышынка ўсяго таго трапіла ў сшыткі збіральнікаў, большасць загінула назаўсёды.

Летнім вечарам ужо не пачуеш песень жанчоў або прысеўшых на лавачках дзяўчат. Усё заціхла, заглухла. Маладая мала цікавяцца тым, чым жылі і цешыліся іх дзяды і прадзеды, не заўважаючы, што гіне штосьці дарагое чалавеку, людской культуры наогул.

Ёсць, праўда, абяцаючы паварот да старых традыцый: вось, для прыкладу, у Дашах існуе фальклорны калектыў „Каліна", а ў Дабрывадзе ажно два, у тым ліку „Любашкі". Спяваюць яны даўнейшыя і новыя беларускія, рускія, украінскія і польскія песні. Значыць, не трэба траціць надзеі — спрадвечная культурная традыцыя бясследна не прападзе.

## КНІЖКА — ТВОЙ ПРЫЯЦЕЛЬ

Публічная бібліятэка ў Кляшчэлях існуе 45 гадоў. Цяпер налічвае яна трынаццаць тысяч тамоў і семсот чытачоў. Апрача бібліятэкі існуе яе філіял у Палічнай, у якім больш шасці з паловай тысячы кніжак і сто сорак чытачоў. Ёсць яшчэ шэсць бібліятэчных пунктаў: у Тапарках, Саках, Сухавольцах, Дабрывадзе, Дашах і Жуках. Найлепш працуе пункт у Саках, які ад пару гадоў вядзе Валянціна Дзмітрук.

У Кляшчэлях трыццаць пяць чалавек чытае беларускія і рускія кніжкі, якіх бібліятэка мае больш паўтысячы.

Кляшчэлеўская бібліятэкарша Анна Шчыгол кожны год купляе новыя кнігі. У мінулым годзе купіла іх 75 за два мільёны злотых і сёлета 34 звыш за мільён злотых. У асноўным гэта мастацкая літаратура.

На трэці квартал гэтага года зроблена падпіска на сем газет і часопісаў, на жаль, няма сярод іх „Нівы". Добра, што ў Кляшчэлях наш беларускі тыднёвік можна купіць у кіёску „Рух" і на пошце. Шкада, што „Ніве" не будзе ў бібліятэчным пункце.

У Кляшчэлях найбольш кніжак чытаюць — сярод дарослых: Мар'я Галэцкая, Віталіюш Коўшук, Тадэвуш Венх, Люба Леанкевіч і Антаніна Леанкевіч, а сярод дзяцей і моладзі: Ілёна Панасюк, Анна Троц, Ізабела Сяліцкая, Данель Сяліцкі і Барбара Рошчанка.

Зараз не працуе бібліятэчны філіял у Палічнай, паколькі тамашняя бібліятэкарша ў мацярынскім водпуску. А шкада, што не працуе. Гмінныя ўлады думаюць, пэўна, што летняй парою кніжкі нікому непатрэбны. Даволі начыталіся за восень і зіму? Праўленне гміны — зыходзячы з эканамічных прадпасылак — скарачае штаты. У Кляшчэлях пакінулі ўсяго адну бібліятэкаршу. А яна таксама мае права на водпуск, можа захварэць або не даехаць, паколькі даязджае яна сюды з Бельска-Падляшскага.

*Працяг будзе.*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**
**Графіка**
**інж. Барыслава Рудкоўскага**

# ЯК ЗРАЗУМЕЦЬ?

З малых год бацька мне казаў: „Ведай сынку, мы — беларусы, ціхі, спакойны народ". Ніхто не пярэчыў яму. Майму бацьку яго бацька так казаў, ад бацькі і я гэтую прымаўку пераняў. Сваім дзеткам цяпер памятаць аб гэтым заўжды паўтараю. Так было аж да гэтай пары, да дзён нашых. Цяпер узнікаюць сумненні і зразумець не магу: хто я? Няўжо пераходзім мы ў другі народ, украінцамі становімся? А можа імі нас зрабіць хочуць, праўда? Некалькі год таму па нашай вёсцы хадзілі маладыя людзі. Гаворка ў іх была ўкраінская. Фатаграфавалі дамы, з людзьмі гаварылі. Між сабой мы казалі тады: „Паглядзіш, зробяць яшчэ ўкраінцамі нас". І сапраўды яно так. Паслухайце па радыё Беласток перадачы „Пад знакам Пагоні" ці „Перад выхадам у царкву". У іх свая мова, свае хлопцы, хаця — крышку не так гавораць, як на вёсцы ў нас. Аднак, гэта ўсё сваё, роднае, аб нашым жыцці. Крыху раней ляцідь у эфір „Украінская думка". Таксама пра нас і пра нашае жыццё. Гавораць там аб гэтых самых людзях і аб тых жа вёсках. Беларускія калектывы робяцца ўкраінскімі гуртамі, якія апошнім часам паехалі на агляд украінскай песні аж у Сопат. І вазьмі зразумей, у чым тут справа. А можа нас схіліць можна туды, дзе не хочам мы? Можа мы такімі здольнымі сталі, што гаварыць патрапім усяляк. Можа ўрэшце расейцамі станем, бо з гэтым народам многа супольнага ў нас. Вітаемся так, як яны, у цэрквах багаслужба на іх мове. Дык чаму ж не стаць нам расейцамі! А можа, лепш стаць яўрэямі? Чаму не! Перад вайною мноства іх у нас было, гандлявалі па вёсках, паслугі рабілі. Поўна іх у Орлі было, дык можа продкамі іх звацЬ? Палякамі даўно ўжо некаторыя з нас лічацца. Толькі падумаць нам асталося, кім лепш быць.

Тут хачу яшчэ сябру Янку Кірызюку дзякуй сказаць. Добры сябар, не забыў ён мяне! Час ад часу штосьці прышле, то свой творык, то газетку ўкраінскую сваю. А цяпер і мапку прыслаў, пэўна, каб я паглядзеў і зразумеў, што і я ўкраінцам лічуся. Так на мапцы гэтай пазначана. А я лічыў сябе беларусам. Як тут зразумець усё гэта? Хто з нас памыляецца? Ці мой бацька, нябожчык, няпраўду казаў? А можа яго бацька, а мой дзед аб гэтым не ведаў? Растлумачце вы нам. А можа ўжо ўсё ўверх дном перавярнулася? А можа найлепш будзе, калі час зробіць сваё і тады даведаемся, хто мы такія і адкуль? Некаторыя з нас лічаць, што важна адно: каб добра жыць, каб нас ніхто не чапаў і ў жыцці ўсяго хапала. Вось такія мы, беларусы!

**ГРЫША МАРОЗ**




Паважаны сп. М. Лук'янюк!

У сваёй адгалосцы ў 26 н-ры "Нівы" пішаце Вы, што я прыдзіраюся да В. Петручука за яго кнігу "Пожня". Кожны чалавек мерае сваёй меркай тое, што навокал яго адбываецца. Вы ацанілі "Пожню" на выдатна, я, аднак, мяркую па-другому. Я ведаю аўтара кніжкі і людзей, пра якіх ён піша і падабенства паміж іх кніжнымі партрэтамі і рэчаіснасцю цяжка дашукацца. Датычыць гэта асабліва партыйных дзеячоў. І ў некаторых другіх кнігах "Белавежы" таксама прадстаўлены нейкі свет абсурду, незразумелага большасці патэнцыяльных чытачоў. Не з'яўляюся я і ворагам Беларускага музея. Я ўжо некалькі разоў плаціў і яшчэ дам складчыну ў фонд яго пабудовы. Лічу яго вельмі патрэбным для захавання нашай спадчыны і традыцыі, аднак без камуністычных акцэнтаў, якія могуць кампраметаваць музей. Наконт немцаў: я іх хвалю за тое, за што можна хваліць - за культуру і парадак. Немцы першыя прыйшлі з дапамогай і Польшчы, і постсавецкім рэспублікам, калі тыя апынуліся ў крызісе. Трэба яшчэ помніць і тое, што немцы плацяць кампенсацыі людзям, пакрыўджаным нямецкімі фашыстамі. А вось цікава, калі бальшавікі дадуць свае кампенсацыі тым, хто пакутваў у лагерах Калымы ці Салаўкоў? Не раз пісаў я, што і сярод камуністаў былі прыстойныя людзі, хіба помніце? І думаю, што Вы - адзін з прыстойных.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# З МАЙГО ПАНАДВОРКА

Два пытанні да дырэктара ПКС у Беластоку:

1. Чаму вадзіцелі аўтобусаў ПКС не хочуць браць ад пасажыраў г. зв. дробных грошай - па 50 і па 100 злотых? Вядома, не ўсе так робяць, аднак тыя, што так капрызнічаюць, часам пасажыра і жабраком абзавуць!

2. Хто ўстанаўлівае цэны за карыстанне туалетам на вакзале ПКС? Цана 2000 (дзве тысячы) злотых - гэта ж проста жывадзёрства! Можа гэта таму, што туды не заглядаюць працаўнікі Скарбовай установы. Падатку ад гэтага, пэўна, таксама няма.

Ці так павінна быць?

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## НОВАЯ КНІЖКА

У рэдакцыі „Нівы" ёсць у продажы кніжка аўтарства ўкраінскага гісторыка Міколы Сівіцкага „Dzieje konfliktów polsko-ukraińskich". Жахлівыя падзеі з памежжа двух суседніх народаў прадстаўлены там з украінскага пункту гледжання. Першы том паказвае польскую палітыку з даўніх часоў да 1939 г., другі — прадстаўляе дакументы і здарэнні з верасня 1939 г. да паловы 1944 г.

Кніжка напісана на польскай мове. Цана двух тамоў — 80.000 злотых.

**Рэд.**

# БРУДЭРШАФТ ВАЛЭНСЫ І ШУШКЕВІЧА

*Працяг са стар. 1*



расійскім бяскраі заўсёды мноства галоты, якая ў сваім галопе цяпер да заходняга дабрабыту можа ўсё і ўсенька затаптаць, бы некалі тыя варварскія гуны. Валэнса неяк паўжартам казаў, што жадае давесці польска-беларускую дзяржаўную мяжу да такое празрыстасці, каб нарачоны хлопец з-пад Беластока або Варшавы мог бесперашкодна паехаць роварам да свае дзяўчыны ў Гродне ці Баранавічах; меў жа на ўвазе не адны інтарэсы закаханых. Стаўкаю ёсць рост эканамічнай прысутнасці Польшчы ў Беларусі, якая яшчэ доўга пакруціцца на маскоўскай прывязі (восемдзесят працэнтаў беларускага экспарту накіроўваецца ў ельцынаўскія губерні). Захад не надта запрашае да сябе Польшчу і Беларусь, Амерыка не возьме нас да сябе, мы павінны разам самі ратавацца, — гаварыў ён на брыфінгу з журналістамі і ў парламенце Рэспублікі. Гэтыя яго паклоны ў бок беларускіх гаспадароў ягонага візіту вельмі пагрозліва ўспрыняла камуняцкая большасць у Вяхроўным Савеце. Будучы саветамі ад роду, яны цярпець не могуць што-колечы беларускае і ўсяляк намагаюцца ліквідаваць Беларускую Дзяржаву, чаго дабіліся б ужо, калі паспрыяла б гэтаму міжнародная сітуацыя. Не пагаджаюцца з логікаю гісторыі, што адышоўшае не ўваскрасае.

Выступленне Прэзідэнта Польшчы ў парламенце Беларусі прынята менавіта непрыхільнай цішынёю. Іначай рэагавалі, аднак, простыя людзі на правінцыі, у Баранавічах, у Наваградку, у вёсцы Сталавачы, жыхары якой перапынілі прэзідэнцкі картэж аўтамашынаў, стаўшы на шашы з польскімі і беларускімі сцягамі. Густа было сярод іх, вядома, і мясцовых палякаў. Валэнса паўтараў і паўтараў сваім землякам тут: любіце Беларусь, шануйце Беларускую Дзяржаву, бо яна — ваша Айчына, служыце ёй верна, лаяльнасць ваша не перашкаджае вам заставацца палякамі, гэтак жа і беларусам у Польшчы як яе грамадзянам можна і трэба быць беларусамі... Мусім ліквідаваць шматвяковыя польска-беларускія непаразуменні... Не павінна ўзнікаць у беларусаў найменшае ўражанне, што вы тут „пятая польская калона"... Як і беларусы Беласточчыны не могуць дапусціцца да таго, каб Польшча глядзела на іх падобным чынам... Граніцы абавязкова павінны перастаць быць глухою сцяною... Не могуць падзяляць народаў, як і адгароджваць беларускіх палякаў ад Польшчы, а польскіх беларусаў ад Беларусі...

Што і казаць: сяму-таму гэта моцна не падабалася! Валэнса ў нейкі момант — у Баранавічах? — пайшоў нават на катэгарычнасць: які гэта дурань хоча вайны з Беларуссю?!

У адлёт прэзідэнцкага самалёта ў Варшаву дайшлі да мяне чуткі, што ў салоне развітанняў мінскага аэрапорта абодва прэзідэнты, Польшчы і Беларусі, выпілі брудэршафт. Нібы дробная гэта падзея, але разам з тым як жа адназначна засведчыла вынікі візіту.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# Д'ЯБЛЫ

*Пачатак у папярэднім нумары.*

З 1918 да 1924 г. насельніцтва былой Расійскай імперыі паменшылася на 15,1 мільёна чалавек. З іх 2 мільёны прыпадае на эміграцыю і 800 тысяч на грамадзянскую вайну. Астатнія перабітыя, перадушаныя, закатаваныя, замораныя голадам бальшавікамі-ленінцамі. Да 1953 года ахвяр камунізму лічылі ўжо на дзесяткі мільёнаў душ.

„Для нас нет и не может быть старых устоев морали и „гуманности", выдуманных буржуазией для угнетения и эксплуатации низших классов, — пісалася ў 1919 г. у чэкісцкім штотыднёвіку „Красный меч". — Наша мораль новая, наша гуманность абсолютная, ибо она покоится на светлом идеале уничтожения всякого гнета и насилия. Нам все разрешено".

„Ленін стварыў магутную дзяржаву, няхай сабе і праз расстрэлы", — пішуць цяпер. („Звязда", 1993, 24.02.).

Увогуле, фразы накштал вышэйпададзенай і лічбы, якімі б вялікімі яны ні былі, часам дрэнна асэнсоўваюцца на слых. Для некаторых гэта абстракцыі, за якімі не ўяўляецца нічога канкрэтнага (нават для тых, хто ўхваляе забойствы. Успомнім Бухарына). Што ж, давайце зірнём, што стаіць за дзеяннямі людзей, якім было „ўсё дазволена".

Сведчанняў, дакументаў, матэрыялаў, артыкулаў, кніг на гэтую тэму надрукавана больш чым дастаткова. Я асабліва адзначыў бы працы С. Мельгунова „Красный террор в России. 1918—1923", Ніластонскага, Авербуха, Мергулієса, а таксама матэрыялы „Асобай Камісіі па расследаванні злачынстваў бальшавікоў", створанай генералам А. Дзянікіным. Дакументы з парыжскага архіва Камісіі часткова надрукаваны ў Расіі (часопіс „Родина", 1990, н-р 10 і інш.).

У сакавіку 1919 г. у Астрахані адбываецца забастоўка рабочых. „Дзесяцітысячны мітынг рабочых, якія мірна абмяркоўвалі сваё цяжкае матэрыяльнае становішча, быў ачэплены кулямётчыкамі, матросамі і гранатчыкамі. Пасля адмовы рабочых разысціся быў дадзены залп з вінтовак. Потым затрашчалі кулямёты, накіраваныя ў шчыльную масу ўдзельнікаў мітынгу, і з аглушальным трэскам пачалі разрывацца ручныя гранаты... Не менш дзвюх тысяч ахвяр было выхаплена з рабочых радоў". (Мельгуноў).

Потым пачаліся арышты рабочых. „У падвалах „чрезвычаек", камендатур і проста ў дварах расстрэльвалі. З параходаў і баржаў кідалі проста ў Волгу. Некаторым няшчасным прывязвалі камяні на шыю... 13—14 сакавіка расстрэльвалі зноў толькі адных рабочых... потым... рашылі браць першых трапіўшых пад руку „буржуяў"... Да 15 сакавіка наўрад ці можна было знайсці хоць адзін дом, дзе б не аплаквалі бацьку, брата, мужа... Да пачатку красавіка расстралялі чатыры тысячы ахвяр. А рэпрэсіі ўсё не сціхалі... Жудасную карціну ўяўляла Астрахань у гэты час. На вуліцах — поўнае бязлюддзе. У дамах ручаі слёз". (Успомніце хрушчоўскі расстрэл рабочых у Новачаркаску ў 1962 г. Бальшавізм „един").

У студзені 1919 года было хваляванне рускага насельніцтва ў Туркестане, незадаволенага бальшавікамі. „У ноч з 20 студзеня былі масавыя расстрэлы. Груды целаў былі навалены на чыгуначнае палатно. У гэтую страшную ноч было перабіта звыш 2500 чалавек" (Мельгуноў).

1920 г. Казань. Бальшавікі расстралялі 60 рабочых за патрабаванне васьмігадзіннага рабочага дня.

1920 г. Бальшавікі ў Адэсе. „Кожны дзень расстрэльваюць... Колькасць расстраляных па афіцыйных дадзеных даходзіць да 7000". Загадалі эвакуіравацъ з Адэсы ўсіх галічан. „Але калі яны сабраліся на таварную станцыю з жонкамі, дзецьмі і багажом, іх сталі расстрэльваць з кулямётаў".

Бальшавікі ў Екацярынадары. Турмы перапоўненыя. „Са жніўня 1920 па люты 1921 толькі ў адной турме расстралялі каля 3000 чалавек".

Стаўрапольская губерня. „Расстрэльваюць жонак за тое, што не данеслі пра ўцёкшага мужа, забіваюць 15-, 16-гадовых дзяцей і 60-гадовых старых... Расстрэльваюць з кулямётаў, часам сякуць шаблямі".

Менск. 1922 г. На сценах спіскі расстраляных. „Расстрэльваюць кожны дзень па некалькі дзесяткаў чалавек".

Крымская разня 1920—1921 гг. Колькасць расстраляных называюць ад 50.000 да 150.000 чалавек. „У Сімферопалі можна было бачыць расстраляных жанчын з груднымі немаўлятамі".

У маленькай Еўпаторыі за 3—4 дні арыштавалі 800 чалавек, перавезлі на караблі і забівалі на палубах. „Ахвяру акружалі з усіх бакоў узброеныя матросы, здымалі з яе верхнюю адзежу, звязвалі вяроўкамі рукі і ногі... адразалі вушы, нос, губы, палавы орган, а часамі і рукі і ў такім выглядзе кідалі ў ваду..." (справа н-р 56 Асобай Камісіі...).

„На металургічным заводзе кінулі ў доменную печ 50 чалавек".

У Харкаве, Палтаве і іншых украінскіх гарадах Асобая камісія выявіла шмат забітых бальшавікамі ў агульных магілах. Трупы з адрэзанымі рукамі, языкамі, насамі, выкалатымі вачамі, сплюшчанымі галовамі і т.п. Сярод іх 18 сямідзесяцігадовых манахаў. З 75-гадовага архіепіскапа Радзівона знялі скальп. „У ліку ахвяр — маладыя дзяўчаты, старыя бабулькі і цяжарныя жанчыны".

„Дваццаць пяць святароў расстралялі ў Пярмі, а епіскапа Андроніка жывога закапалі".

„Забітых пакідалі доўга валяцца на месцы расстрэлу і не дазвалялі родзічам забіраць целы, пакідаючы іх на з'яданне сабакам і свінням, якія цягалі іх". (Мельгуноў).

„Ворагаў народа", сялян, рабочых, буржуяў, „гнілую інтэлігенцыю" і г.д. чэкісты шмат дзе вешалі і расстрэльвалі днём, проста ў горадзе ў прысутнасці разявак, родзічаў і дзяцей. У маскоўскай ЧК у 1923 годзе ўсю зіму расстрэльвалі проста ў двары. Снег быў буры. Калі ён пачаў раставаць, на вуліцу з-пад варот хлынула рэчка крыві. Чэкісты выскачылі і адчынілі на вуліцы нейкі люк, спускаючы туды крывавую плынь.

У Саратаве бальшавікі расстрэльвалі каля горада ў вялікім глыбокім яры. Трупы не засыпалі. За год іх накапілася тысячы. Як магнітам туды цягнула людзей. Стаялі на перакідным мастку, узіраліся ў чалавечае месіва, дзе жыравалі каты, вароны, сабакі, спадзяваліся ўбачыць сваіх родзічаў. Цікаўных тут жа арыштоўвалі чэкісты. А людзі ж як у самнамбулічным стане ішлі і ішлі.

Хворых і раненых знішчалі „беспощадно". Вось прыехала група бальшавікоў у шпіталь пасля адыходу Дзянікіна. „Пагаварыўшы трошкі з раненымі, пачалі затым расстрэльваць і секчы ўсіх падрад... прычым адзін з іх дастаў сякеру і сек ёю... Праз нейкі час... усе вымазаныя крывёй абмывалі сябе і сваю зброю, сякеры і рыдлёўкі на двары ў карытах, а потым зноў вярнуліся прадаўжаць... (Справа н-р 2).

Над людзьмі і трупамі абавязкова глуміліся. У прысутнасці жонкі бальшавік ударыў яе мужа шабляй па галаве. „Мазгі выпалі і разбіліся на кускі на тратуары; удава кінулася падбіраць іх, каб не даць схапіць сабакам. Адагнаўшы ўдаву, чырвоны кат закрычаў: „Не руш. Хай сабакі зжаруць". (Справа 43—44).

„Расстрэльвалі дзяцей у прысутнасці бацькоў і бацькоў у прысутнасці дзяцей... Асабліва лютаваў Асобы аддзел ВЧК. Ён прысылаў з франтоў у Бутыркі (Масква — З.П.) цэлымі пачкамі малалетніх „шпіёнаў" ад 8 да 14 гадоў". (Мельгуноў).

*Працяг будзе.*

**ЗЯНОН ПАЗНЯК**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук, народны дэпутат Беларусі.**

# ШОСТАЯ НЯДЗЕЛЯ ПАСЛЯ ПЯЦІДЗЕСЯТНІЦЫ

Кожная нядзеля, апрача пастаяннага ўрыўка Евангелля, мае свой урывак гэтак званага "апостала". Некаторыя з іх гучаць як быццам былі напісаны ўчора, з думкай пра асаблівасці нашага пераломнага і супярэчлівага часу. Зараз адбываецца пераацэнка каштоўнасцяў, пры тым зноў з небяспечным перахілам. Тое, што было добрым і высакародным дзесяць гадоў таму, зараз ганебнае і дрэннае. Усе гавораць пра пераадоленне няслаўнай спадчыны аднаго -ізму і вяртанне да іншага -ізму: ад сацыялізму да капіталізму, ад атэізму да каталіцызму. Зараз у Польшчы партбілет трэба дбайна прыхаваць, дзяцей рэгулярна пасылаць на ўрокі рэлігіі, на сцяну павесіць вялікі партрэт Папы, не занядбаць ніводнай Імшы, усю грамадскую дзейнасць накіраваць у парафіяльнае русло і ўсюды прабаваць даказваць, што за апошнія 40 гадоў вы былі ў апазіцыі да ненавіснага камуністычнага рэжыму. Наогул, трэба добра запамятаць словы віцэ-прэм'ера Генрыка Гарышэўскага: "Няважна, ці будзе ў Польшчы капіталізм, няважна, ці будзе ў Польшчы свабода слова, няважна, ці будзе ў Польшчы дабрабыт, найважнейшае, каб Польшча была каталіцкай... Каталіцызм - не дадатак да польскасці. Гэта ейная сутнасць", - сказаў не абы-хто, але афіцыйны прадстаўнік урада.

Гэта ў Польшчы. Што тычыцца Беларусі, дык там таксама шмат гавораць пра вяртанне да здаровай рыначнай эканомікі, хаця ніхто дакладна не ведае, што гэта такое. На мітынгах з удзелам невылечнага прафесійнага "таварыша" Чыкіна і яму падобных, "ветэраны вайны" і "сацыялістычнай працы", двойчы і тройчы героі, у якіх больш медалёў, чым зубоў, апантана хочуць вяртацца да нескажоных, ленінскіх прынцыпаў і далей ашчасліўляць народ светлай будучыняй, як быццам 70 гадоў ім было мала. Інтэлектуалы хочуць вяртання да гэтак званых "агульначалавечых каштоўнасцяў", у тым ліку да рэлігіі, аднак пры цяперашняй свабодзе ў храмы неяк ніхто не хлынулі.

У сувязі з гэтым узнікае пытанне: а можа так вярнуцца проста да **нармальнасці**? Можа разумней было б паўторна не вынаходзіць пораху і не ламаць адчыненых дзвярэй, але пагледзець, як гэта робяць іншыя. Можа хопіць ужо ўвесь час перавыконваць планы, а хоць раз яго проста **выканаць**. Можа пара ўжо зразумець, што добрую працу ўзнагароджваюць не медалямі, але адэкватнай зарплатай і што добрая праца - гэта не заслуга, але **абавязак**.

Як жа проста і ясна піша аб гэтым у 12-м раздзеле Ліста да Рымлянаў Апостал Павел: "Калі ж па данай нам ласцы маем розныя здольнасці, дык калі прароцтва - прароч, па меры веры; калі служэнне - служы; калі навучаеш - вучы; калі напамінаеш - напамінай; калі раздаеш - дык у прастаце; калі настаўлены над другімі - старшынствуй у шчырасці, калі міласэрны - дык у радасці... у пашане адзін аднаго апераджайце, у рупнасці не слабейце, духам палайце... Пацяшайцеся надзеяй; у горы будзьце цярплівымі, у малітве сталымі". "Хай кожны працуе сваімі рукамі", - заклікаў Павел і сам, каб утрымаць, звычайна выплятаў кошыкі. На дзевятнаццаць стагоддзяў да Леніна, ён выразна заявіў: "Хто не працуе, хай і не есць", пры тым паўтараў, што "ўсё што б вы рабілі, рабіце ад душы" (Кал. 3, 23).

Можна скінуць урад і змяніць дзяржаўны лад. Можна змяніць сацыялізм на капіталізм, але перш за ўсё трэба змяніць чалавека. "Само жыццё, - піша нават "Камуніст Беларусі" (н-р 5, стар. 44), - з ягоным шматвяковым, практычным дасведчаннем паказвае, што няма іншага выйсця з крызісу, апрача працы, ініцыятывы, творчасці і згоды. Толькі гэтыя агульначалавечыя вартасці здольны вывесці нас на шлях да памыснасці, стабілізацыі эканомікі і грамадства ў цэлым".

Пад гэткай заявай можа падпісацца кожны. Ёсць каштоўнасці, якіх прагрэсіўнае грамадства не можа адкінуць. Шматлікія пакаленні выпрацоўвалі найлепшыя ідэі і формулы, якімі мы павінны пакарыстацца. "Іншыя працавалі, а вы ўключыліся ў працу іхную, - гаворыцца ў Святым Пісанні, - усё выпрабоўвайце, але дзяржыцеся добрага" (Фес. 5, 21).

Здаецца, і ў наш час, біблейскія праўды зноў могуць нас чагосьці навучыць.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# ЧАРГОВЫ ПАКАЗАЛЬНІК АЙЦА РЫГОРА

Айцец Рыгор Сасна з Рыбалаў працягвае сваю „Бібліяграфію праваслаўных прыходаў на Беласточчыне". Нядаўна выйшаў з друку другі дадатак да алфавітнай часткі */. Кніжка змяшчае каля 1900 анатацый (ад н-р н-р 6057 да 7938). Гэта ў асноўным часопісныя публікацыі ці асобныя выданні з апошніх гадоў, хаця можна знайсці некалькі артыкулаў і з бягучага года, а навят яшчэ ненадрукаваныя (н-р 6527). У ёй зафіксавана шмат публікацый, якія паказаліся друкам раней, але не знайшліся ў дагэтуль выдадзеных тамах.

Акуратнасць не дазваляе а. Рыгору абмінуць здымкі цэркваў ці праваслаўнай іерархіі, надрукаваныя ў розных артыкулах, выданнях. Улічвае ён у бібліяграфіі і выдадзеныя паштоўкі, карты, рознага роду праваслаўныя календары, фатаграфічную дакументацыю рухомых помнікаў у цэрквах, тапаграфічную дакументацыю праваслаўных аб'ектаў інж. Б. Рудкоўскага, якая захоўваецца ў царкоўных архівах, апрацоўкі некаторых актаў, што знаходзяцца ў Дзяржаўным архіве ў Беластоку. У бібліяграфіі названы шматлікія магістэрскія і доктарскія дысертацыі, напісаныя ў вышэйшых навучальных установах Беластока, Варшавы, Любліна і Гданьска.

Анатацыі падаюцца галоўным чынам паводле спіску прозвішчаў аўтараў ці іх крыптанімаў. Некаторыя публікацыі, пераважна ананімныя, пададзены паводле алфавітнага спіску мясцовасцей або праблемаў, якіх яны датычаць. Інтэгральнай часткай кніжкі з'яўляюцца тры дадаткі (з захаванай бягучай нумарацыяй). Пры некаторых анатацыях аўтар дае дадатковыя тлумачэнні.

Прыведзеныя ў бібліяграфіі публікацыі тэматычна выходзяць па-за рамкі адно толькі праваслаўя. Яны датычаць праваслаўнага жыхарства Беласточчыны ў шырокім дыяпазоне яго жыцця, дзейнасці, творчасці. Такім чынам бібліяграфія набывае рысаў універсальнасці — ёю могуць карыстацца не толькі даследчыкі беластоцкага праваслаўя, але таксама ўсе, хто наогул цікавіцца Беласточчынай.

У бібліяграфіі — шырокі дыяпазон крыніцаў. У ёй густа ад часопісаў, якія выходзяць па-за межамі Польшчы, нават такіх, пра якія мала хто з нас і чуў (напр.: „Społeczeństwa Otwarte", „Nowum Edukacyjne", „Poglądy", „Nowa Europa"). Не застаюцца без увагі і мясцовыя, гмінныя газеты — „Głos Siemiatycz, „U Siebie" (Бельск-Падляшскі), „Nazukos. Wiadomości Supraskie", „Z Zabłudowskiej Ziemi", "Gazeta Sokólska", „Życie Brańska", „Co słychać w gminie" (Кляшчэлі), „Rozmaitości" (Чорна-Беластоцкая), „Głos Hajnówki" ці проста мясцовыя, аказійныя выданні.

На жаль, у даведніку часта сустракаюцца друкарскія памылкі (напрыклад: Poslska, Widmości, Kuriier, Biiałostockiej, Hoals). Яны напэўна бібліяграфію не ўпрыгожваюць, а ў некаторых выпадках могуць проста ўвесці ў зман карыстальнікаў, асабліва тады, калі, напрыклад, замест „Gazeta Tygodniowa" падаецца „Gazeta Tygodnia" ці замест "Kurier Podlaski" стаіць „Kurier Poranny" (6633).

Усё ж такі бібліяграфія прадстаўляе вялікую каштоўнасць для ўсіх зацікаўленых абсягам праблемаў, якія яна ўлічвае. На плюс для яе трэба запісаць агульную празрыстасць, прысутнасць асабовага і геаграфічнага індэксаў, якія вельмі аблягчаюць шуканне патрэбных матэрыялаў. Задавальняе і графічнае афармленне даведніка (на апошняй старонцы вокладкі змешчаны малюнак рыбалаўскага храма святых Кузьмы і Дзяміяна).

Трэба адзначыць і тое, што апошні паказальнік змяшчае публікацыі да канца 1992 г. Такой актуальнасцю рэдка якая бібліяграфія можа ў нас пахваліцца, а прынамсі не ў нашым рэгіёне.

Даведнік надрукавала Выдавецка-паліграфічная суполка „Orthdruk" у Беластоку, а дапамагла ў яго выданні Камісія апекі над помнікамі Варшаўскай праваслаўнай мітраполіі.

Вялікі дзякуй рыбалаўскаму святару за чарговы паказальнік беластоцка-праваслаўнай тэматыкі!

**ПЁТР БАЙКО**

--------------------

*/ *Ks. Grzegorz Sosna, Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie, Część alfabetyczna, Suplement II. Z przedmową Michała Kondratiuka. Ryboły 1993, str. 191.*

# ГАРАДЗЕНСКАМУ РАДЖДАСТВА-БАГАРОДЗІЧНАМУ ЖАНОЧАМУ МАНАСТЫРУ 150 ГАДОЎ

Па бласлаўленню Яго Святасці Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II увесь 1993 год для Гродзенскага Свята-Раджджаства-Багародзічнага жаночага манастыра лічыцца юбілейным у сувязі са 150-годдзем з дня прыходу яго ў 1843 годзе на ўзлонне Рускай Праваслаўнай Царквы. Святы Сінод Беларускае Царквы на сваім пасяджэнні 10 мая 1993 г. вызначыў дату святкавання Юбілею: 1 ліпеня 1993 г. на свята іконы Божай Маці Багалюбскай.

Што давялося перажыць манастыру за мінулае паўтары стагоддзя? Гэта адбудова абіцелі пасля ліквідавання уніі і ўвядзенне праваслаўя; гэта 1901 год, калі наступіла перанясенне асноўнага Гарадзенскага манастыра у Красны Сток (Ружаны Сток, што каля Дубровы Беластоцкай); гэта — выцяканне цудадзейнага міра з іконы Божай Маці Уладзімірскай; гэта — Першая сусветная вайна і знішчальная бомба, якая амаль да падставы разбурыла галоўны манастырскі храм Раджджаства Прасвятой Багародзіцы; гэта — адбудова ад фундаментаў знішчанага манастыра; заснаванне прытулку для сірот, царкоўна-настаўніцкай школы, аптэкі, амбулаторыі, вытворчых майстэрняў, стварэнне праваслаўнага сястрычаства, гэта — уладкаванне і ўмацаванне ўнутрыманастырскага жыцця і перайтварэнне яго знешняга выгляду пры мудрай Настаяцельніцы схімаігуменні Гаўрыіле (Рысліцкай); гэта — бязлітаснае закрыццё і разбуранне манастыра ў часы безбожніцтва і таталітарызму, выгнанне яго манашак; гэта — новае адраджэнне ў ім духовага жыцця пасля 32-гадовага панавання тут з усёразбураючай сілай Добраахвотнага таварыства садзейнічання Савецкай Арміі, Авіяцыі і Флоту, а потым сапраўды ваяўнічага атэізму ў ролі музея атэізму і рэлігіі, які, да сённяшняга дня свяктуе сваю „міравую" перамогу.

Але Бог зняважаны не бывае. Кожны ў свой час атрымае плату. І святая Абіцель, наблізіўшыся да свайго 150-годдзя, не баіцца варожых падкопаў, якія ўчыняюцца вакол яе вяртання, бо з Ёю — Бог!, з ёю Пакроў і Заступніцтва Царыцы Нябеснай. Заклікаем усіх Вас малітоўна адзначыць стопяцідзесяцігадовы юбілей Манастыра.

**Гарадзенскі Раджджаства-Багародзічны жаночы манастыр**

# ВОБЛІК ХРЫСТА І МАРЫІ

Хаця я дагэтуль наогул крытычна стаўлюся да сп. Д. Шатыловіча, яго допіс у 25-м н-ры "Нівы" "Аб апостальскім саборы ў Іерусаліме ў 51 г." вельмі мне спадабаўся. Відаць, што аўтар выдатна разумее тэалагічныя нюансы, калі піша, што Збавіцель наш, Ісус Хрыстос, меў чатырох зводных братоў (Якуба, Язэпа, Сымона і Юду) і не менш чым дзве сястры. Былі яны Хрысту роднымі. Бацькам Хрыста быў сам Усявышні Бог - Дух Святы і аб гэтым павінен ведаць кожны. Артыкул Д. Шатыловіча важны і па той прычыне, што абвяргае догмы каталіцкіх тэолагаў, паводле якіх згаданыя браты і сёстры Хрыста былі яму дваюраднымі. Д. Шатыловіч пераканаўча даказвае, што гэта няпраўда. Католікі яшчэ лічаць сваім галоўным аўтарытэтам Марыю - Матку Хрыста. Гэта таксама памылка, бо галоўным аўтарытэтам кожнай хрысціянскай царквы з'яўляецца сам Ісус Хрыстос. Марыя гэта вялікі аўтарытэт - Бог выбраў менавіта яе нарадзіць Яму Сына - але не можа яна раўняцца са сваім сынам Хрыстом - Богам. У католікаў налічваецца яшчэ шмат Матак Боскіх, а ёсць жа толькі адна Маці Хрыста - Марыя, і яе воблік, як і воблік самога Хрыста астаецца для нас таямніцай, бо не асталіся іхнія сапраўдныя партрэты. Тое, што малююць мастакі жывапісу - гэта плод іхняй фантазіі і нічога болей.

Для нас, веруючых, воблік Хрыста, Марыі і апосталаў даражэй золата, але як Яны ў сапраўднасці выглядаюць, убачаць толькі выбранцы Бога ў Царстве Нябесным.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ЯШЧЭ РАЗ АБ АПОСТАЛЬСКІМ САБОРЫ

Пасля майго артыкула „Саборы" (у 19 нумары) з'явілася дапаўняльная нататка Д. Шатыловіча пад загалоўкам „Аб Апостальскім Саборы..." (н-р 25). Хаця гэты допіс не тычыцца самога Сабора, аднак нельга мне пакінуць яго без каментарыя, паколькі змяшчае ён сцвярджэнні нязгодныя з навукай Праваслаўнай Царквы. Справа датычыць братоў Хрыста і Прасвятой Дзевы Марыі як жонкі Іосіфа. Некаторыя вернікі і няверныя лічаць, што Прасвятая Багародзіца апрача Ісуса нарадзіла яшчэ іншых дзяцей. Свае меркаванні выводзяць яны са слоў Апостала „і ўрадзіла Сына Свайго Першага..." (Лук. 2, 7), што быццам бы пацвярджаюць Евангелісты, якія ўспамінаюць братоў Хрыста — Мацвей 13, 55 і Марк 6, 3. Трэба аднак памятаць, што паводле майсеевага закону першародным называлі кожнае немаўля мужчынскага полу „разверзающее всякие ложесна" (Выхад 13, 2), гэта значыць, першае народжанае, хаця б было і апошнім. Браты Ісуса не былі Ягонымі роднымі братамі, а толькі сваякамі, г. зн. дзецьмі Іосіфа ад яго першай жонкі Саламеі і дзецьмі Марыі Кляопавай, якую Св. Іаан Евангеліст называе „сястрой Маці Яго" (Іаан, 19, 25). Дзева Марыя не была таксама жонкай Іосіфа ў дасловным значэнні. Апостал Лука (1, 27) гаворыць, што была яна толькі заручана Іосіфу. Так напісана ў царкоўнаславянскім, рускім, ці беларускім тэкстах. Праўда, у некаторых польскамоўных выданнях, як рымска-каталіцкіх, так і пратэстанцкіх, можна ў гэтым месцы сустрэць слова „poślubiona", што аднак не выключае таго, што Іосіф не быў сапраўдным мужам Дзевы Марыі. Паводле яўрэйскага закону Яна фармальна была жонкай Іосіфа, але толькі фармальна. Вядома, што з трэцяга года жыцця Марыя прабывала ў іерусалімскім храме, дзе абяцала Богу, што астанецца дзевай і не выйдзе замуж. Калі споўнілася ёй 14 гадоў і нельга было даўжэй аставацца ў храме, ёй трэба было або вярнуцца да бацькоў, або выйсці замуж. Яе бацькі, Якім і Анна, ужо не жылі і менавіта чакала яе другая магчымасць. Першасвяшчэннік, які ведаў абяцанне Дзевы Марыі дадзенае Богу, вырашыў дапамагчы Ёй і адначасна стрымаць патрабаванні закону. І менавіта ён фармальна заручыў Марыю з Яе састарэлым сваяком, удаўцом Іосіфам, які праслявіўся багабаязным жыццём.

Калі аўтар згаданага допісу з'яўляецца праваслаўным, дык павінен задаволіцца гэтымі паясненнямі (думаю, што далейшы каментарый непатрэбны). У іншым выпадку будзе гэта яго асабістая справа, справа яго інтэрпрэтацыі і поглядаў. Трэба аднак памятаць, што згодна навукі Царквы нельга самавольна інтэрпрэтаваць Свяшчэннае Пісанне. Часта, каб правільна яго зразумець, трэба ведаць тагачасныя грамадскія, палітычныя і іншыя абумоўленні, браць пад увагу больш фрагмент тэксту, бо сэнс нярэдка вынікае з кантэксту. Перш за ўсё трэба аднак ведаць інтэрпрэтацыю і навуку Царквы, значыць Святых Айцоў і Настаўнікаў. У іншым выпадку адвольнае тлумачэнне — гэта небяспечная справа, прыкладам чаго можа быць шматлікасць рознага роду сект і „псеўдахрысціянскіх" груп, якія ўзніклі, між іншым, на такой глебе. Гэтае асабліва моцна наглядаецца ў Заходняй Еўропе і ЗША.

**С. Н.**

# „BASÓWA” і „ЧАД”

Штогод з Алімпа ўздымаецца Басовішчух ды ляціць па шырокім свеце — спыняецца толькі на адной з соснаў у гарадоцкім лесе, тых, якія акружаюць сцэну ў Барыку. Сядае там і глядзіць — глядзіць „што то будзя”. А калі ўжо пачынаецца, з грукатам звальваецца на тую ж сцэну, мабыць і разбівае сабе лоб.

### Арганізацыя

Сёлетні выпуск Фестывалю музыкі Маладой Беларусі (чацвёрты) адбудзецца 16 (пятніца) і 17 (субота) ліпеня. Адбудзецца ў тым жа, што і заўсёды месцы: Гарадок, Беласточчына. Праз тры мінулыя гады Фестываль выпрабаваў розныя канцэпцыі яго правядзення — была студэнцкая імпрэза са спевам пад гітару, былі канцэрты рок-музыкі, фальклорны фэст, барды. Трэба ўрэшце на нешта вырашыцца, сказалі мне арганізатары сёлетняга „Басовішча” Марко Заброцкі і Тамаш Андраюк. Чаго людзі прыязджаюць у Гарадок? Яны едуць, каб паслухаць добрую музыку! Такую музыку трэба ім даць. Што тут найважнейшае? Сама важна, каб імпрэза мела свой характар, профіль. Маладыя не хочуць ужо фальклору і „дзеравеншчыны” — ім трэба паказаць сучасную музыку на высокім узроўні, рок. Такою менавіта імпрэза мае быць у гэтым годзе. Выступяць адны рок-гурты. Будзе адзін саліст, але толькі таму, што ён мінулагодні лаўрэат. Салістаў на такой імпрэзе ўвогуле не павінна быць — яны павінны выступаць у зале.

Другой не менш важнай справай з'яўляецца гукаўзмацняльная апаратура — яна не можа быць такой, як у мінулым годзе. Што праўда, каля сцэны было чуваць, але гэтага было за мала. У гэтым годзе мае быць па 4 кілаваты на адзін бок сцэны — гэта прыблізна ў дзесяць разоў больш, чым год таму.

Ну і апошняя справа, якая заўсёды разбівала „Басовішча” — дах над сцэнай. Яго адсутнасць, як прынцып, зрывае канцэрты ў тыя моманты, калі публіка, так сказаць, найбольш „ачадзелая” ды спадзяваецца, што ёй дастаўляць яшчэ большага „Чаду”. Такі-сякі дах у гэтым годзе будзе, часовы, але заўсёды.

### Канцэпцыя

Яна вельмі простая ў гэтым годзе, гавораць Марко Заброцкі і Тамаш Андраюк. У пятніцу выступяць усе — такі сабе рок-марафон. У суботу толькі тыя, якіх узнагародзім. Вопыт мінулых фестываляў наяўна паказвае, што публіка хоча гуляць да ўпаду — нагодай такой будзе пятніца 16 ліпеня. Другой акалічнасцю. якая прымушае выстраляць увесь порах за адным махам гэта тое, што няма зашмат чаго паказаць — трывалых і сур'ёзных гуртоў у Беларусі не так ужо многа. Калі не будзе ніякіх клопатаў на мяжы, то ўсіх іх мы пабачым і пачуем у Гарадку.

### Выканаўцы і праграма

На чацвёртым „Басовішчы” мы маем надзею пачуць такія славутыя гурты (неабавязкова ў такім парадку):

славутую **КРАМУ**,
славутую **МРОЮ**,
славутае **НОВАЕ НЕБА**,
славуты **УЛІС**,
англафікаваны **SEVEN B**,
славуты **ПАЛАЦ**,
славуты **КАМЕЛОТ**
і славутага **ВІКТАРА ШАЛКЕВІЧА**.

Англафікаваны SEVEN B мае выступіць з тою ўмовай, што падрыхтуе некалькі песняў па-беларуску.

### Забеспячэнне

Выканаўцам у гэты годзе ўпершыню ствараюцца ўмовы для жыцця. Арганізатары маюць пасяліць іх у Беластоку, а не ў палатках. У Гарадок будуць даязджаць на аўтобусе, які забяспечыў суарганізатар „Басовішча” войт Гміны Гарадок Яўген Семянюк. Гміна таксама мае ладзіць фальклорны фэст у нядзелю 18 ліпеня — фэст такі патрэбны, бо старэйшыя жыхары Гарадка напэўна не вытрымаюць гэтага рок-марафона і „Чаду”. Мерытарычнае і графічнае афармленне Фестывалю забяспечвае ў гэтым годзе Лявон Тарасэвіч — суарганізатар імпрэзы. Гэта ён, калі хто не памятае, прыдумаў і зрабіў праект новай сцэны ў Гарадку. У гэтым годзе Лявон павядзе таксама канцэрты.

### На што наракаюць?

Не надыходзяць спадзяваныя датацыі для Фестывалю. Застаецца ўжо мала часу, гавораць Марко і Тамаш, за некаторыя справы ўжо трэба расплаціцца, а мы не маем дзеля гэтага фондаў. Ёсць і клопат з палатачным полем. Войска нешта круціць носам.

### Што такое „Basówa?”

Гэтага не ведае нават Басовішчух.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# ГАРАДОК...

*Працяг са стар. 1*

Што застаецца Міхалову, якое не мае ані свайго фестывалю, ані добрай кухняй не можа пахваліцца? Хіба толькі траш-металёвы гурт „Крусейдарс”, які ў мінулым годзе выступіў у Барыку ў час г. зв. свабоднага мікрафона. Я, што праўда, нічога з іхняга спявання не зразумеў, але група вучняў перад гарадоцкай Пачатковай школай выказалася адназначна — „Крусейдарс” былі найлепшыя.

### Panem et circenses

Гарадок у чэрвені ўжо чакае Фестывалю музыкі Маладой Беларусі. Ёсць каму чакаць — на 7100 жыхароў гміны (3600 — у Гарадку і Валілах-Станцыі), 388 зарэгістраваных беспрацоўных, з якіх 266 атрымлівае яшчэ дапамогу. Гэтыя будуць мець у Барыку нават за што піва выпіць, астатнім давядзецца смакаваць толькі музыку, хіба што прададуць бутэлькі пасля першых.

Войт Яўген Семянюк лічыць, што фактычнае беспрацоўе ў гміне яшчэ большае, бо не ўсе зарэгістраваліся. Так што ёсць патэнцыяльная публіка, падобная да тае з рымскіх часоў, для якое трэба хлеба і гульбішчаў. Каб толькі не пабольшала беспрацоўных. У ГСаўскай краме (ці яна яшчэ ГСаўская, толкам не ведаюць і самыя працаўнікі), дзе хлеб некаторым даводзіцца браць у крэдыт, кажуць, што можа ўпасці „Каро”. Гэта філіял тэкстыльнай фабрыкі ў Седльцах, працуе ў ім каля 300 чалавек, 80% — жанчыны. Калі б яго зачынілі, колькасць беспрацоўных бы амаль падвоілася.

Аднак на месцы абвяргаюць чуткі пра магчымасць краху прадпрыемства. Праўда, цяпер ненайлепш маюцца фабрыкі, якія экспартуюць свае тавары (з прычыны курсу долара), а гарадоцкае „Каро” да іх залічваецца. Але неяк даюць рады. Аказваецца, можна выжыць і з продажу кашулек амерыканцам і заўсёды тых 2 мільёны злотых зарабіць.



*Доктар Анатоль Маркевіч — 32 гады ў Гарадку — прысутны на кожным "Басовішчы".*

### — Людзі ідуць на „Бас”, каб адвесці душу, —

кажа доктар Анатоль Маркевіч, — каб сустрэцца з беларускай культурай, каб адпачыць. Я да гэтае пары быў на кожным „Басовішчы”, арганізатары мяне ведаюць. Ведаюць да каго звярнуцца, калі што каму станецца. Але дасюль прыкрых інцыдэнтаў, выпадкаў не было. От, як то ў лесе ноччу, часамі хтосьці пасля алкаголю штось сабе скруне ці патаўчэцца, але сур'ёзных спраў не было. Вельмі ўдалая імпрэза.

Да солтыса Гарадка-II Мікалая Адаміка трэба было ісці на гарод, між жытам і бульбай. З суседзямі капаў ён там калодзеж, каб зручней было паліваць моркаўку з радыскай і агуркамі. У Гарадку цяжка капацца ў зямлі.

— Тут столькі нашых беларускіх каранёў, — смяецца дзядзька са студні, — хоць ты зубамі ўгрызайся. І ўсе яны глыбока запушчаны.

Мікалай Адамік кажа, што ў Гарадку да „Басовішча” будзе ўсё зроблена. Ёсць старыя яшчэ ўказальнікі, трэба іх толькі паразвешваць. Традыцыйна, мясцовыя зоймуцца забеспячэннем санітарных умоў на палатачным полі і каля сцэны ў Барыку. Шкада толькі, што не можна будзе ў чарговы раз пакарыстацца гасцінай войска, давядзецца падрыхтаваць іншае месца.

### Толькі, каб было штосьці і для людзей,

бо ўвесь гэты моцны ўдар, рок, добры для моладзі, але не для салідных дзядзькоў і цётак, якія тлумна збіраюцца ў Барык. Раней была віцебская „Грамада”. Сёлета мае на нядзелю прыехаць бельская „Маланка”, але гэта будзе ўжо па-за праграмай, што падкрэсліваюць арганізатары. Сёлетняе „Басовішча” мае быць якраз аднароднае, пад знакам рок-музыкі. Нават бардам не хапіла месца. Апрача Віктара Шалкевіча, пераможцы ў мінулагоднім конкурсе. Думаю, можа ён задаволіць публіку любога ўзросту. Ці не захутка арганізатары адмовіліся ад іншых жанраў музыкі, ці не паўплывае гэта адмоўна на стасунак мясцовых людзей да фестывалю. На аднаго гледача спадзявацца можна будзе заўсёды:

### Каларада на „Басовішча” прыйдзе.

Абяцаў ён мне гэта, добра ўжо падхмелены, хаця было яшчэ далёка да абеду. Не ведаеце, хто такі Каларада? Напэўна, пазнаёміцеся з ім у Барыку. Гэта адзін з тых тыпаў, якія кідаюцца ў вочы. Але нічога дрэннага нікому не робіць, як мне сказалі ў Гарадку.

Гмінным уладам у чэрвені адбірала сон чутка, што

### арганізатараў у Менску арыштавалі.

— Ці гэта праўда? — пытаецца затрывожаны Яўген Семянюк, а за ім і Тамара Бурачэўская, і яшчэ пару напатканых асоб.

Нічога падобнага. Арганізатары цэлыя і здаровыя. І маюцца добра. Калі штосьці не выйдзе з фестывалем, то зусім па іншых прычынах.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота аўтара**

# ПАРАТУНАК

Мікола Гайдук, добра вядомы чытачам „Нівы” як знакаміты публіцыст і даследчык нашай, старадаўняй гісторыі, дачакаўся выдання свае кніжкі *), у якой прадстаўляе гісторыю беларускай зямлі з часу сфармавання этнічнай структуры на гэтай тэрыторыі, з перыяду вандровак розных плямёнаў да пачатку XV стагоддзя. Гэта не навуковая праца і, мабыць, таму чытаецца яе вельмі лёгка. Свядома ці несвядома, Мікола Гайдук напісаў гістарычнае эсэ на ўзор твораў польскага эсэіста Паўла Ясяніцы. Аказалася, што такая форма запісу намнога лягчэй даецца чытачу, чым праца напісаная навуковым слэнгам з усім навуковым апаратам, зразумелым толькі гісторыкам-прафесіяналам.

Праца Гайдука — адназначны адказ усім рэвізіяністам, якія імкнуцца псеўданавуковымі метадамі даказаць, што такая ці іншая частка беларускай зямлі з'яўляецца этнічна рускай, польскай, літоўскай ці ўкраінскай.

„Аднак было б няпраўдай, — піша М. Гайдук, — сказаць, што нашай Беласточчынай не цікавяцца вучоныя. Тут кожная мізэрная раслінка і кожная нікчэмная жывёлінка вывучаны да найменшых драбніц, а кожны пагорак і кожная далінка перамераны дзесяткі разоў. Нашая зямля даследуецца навуковымі інстытутамі, кафедрамі вышэйшых школ, гэтым займаюцца сотні вучоных, і з іх многія маюць самыя высокія навуковыя званні, а з-пад іх пяра выйшлі тысячы самых разнастайных артыкулаў, публікацый, кніг. Але, на жаль, вельмі рэдка ў іх можна натрапіць на звесткі пра нас, насельнікаў гэтай зямлі, і наша мінулае. (...) А калі і паяўлялася ці паяўляецца нешта, дык гэта пераважна чужыя нам і зманлівыя галасы.

Адны з іх здаўна імкнуцца даказаць, што на сённяшняй Заходняй Беларусі і Беласточчыне некалі жылі паўднёвыя балтыйскія плямёны, якія былі роднасныя сённяшнім літоўцам.

Другія намагаюцца выявіць тут сялібы нейкага „зрусіфікаванага” яшчэ князем Яраславам Мудрым, заходнеславянскага племені „старападляшан”, якія нібы-та былі роднаснымі мазаўшанам.

Трэція ж сіляцца пераконваць, што тэрыторыя паміж рэкамі Бугам і Нарвай — гэта „мати Україна”, пры тым чысцейшая і праўдзівейшая, чым сама Кіеўшчына. (...)

На „підляськіх” украінцах не канчаецца доўгая чарга прэтэндэнтаў на званне „ўладальнікаў” заходніх земляў Беларусі і Беласточчыны.(...) З іншага ж боку свету даносіцца патрабаванне, каб не толькі Беласточчыну, але і ўсю Беларусь лічыць „искони российской стороной”. (...) І ажно дзівіцца трэба, што Беларусь яшчэ не лічаць сваім „улусам” татары”.

Мікола Гайдук паказвае, дзе былі сядзібы радзімічаў, крывічоў, дрыгавічоў — плямёнаў, якія пасля склалі беларускую нацыю. Гэта дрыгавіцкія палкі ў складзе дружыны Уладзіміра Вялікага ішлі з-пад Буга за Бобру (Бебжу) аж да Нёмана. Аўтар падрабязна апісаў перыяд г. зв. „Кіеўскай Русі”, які ў свядомасці, а перш за ўсё ў школьных падручніках існуе больш на прынцыпах міфа, чым абгрунтаваных навуковымі доказамі ведаў. Ніколі не было аднае „Русі”. Полацкае княства мела зусім іншы палітычны, культурны, юрыдычны, эканамічны характар, чым Кіеўская ці Ноўгарадская дзяржавы.

Гайдук прадстаўляе далей цяжкія гады змагання за незалежнасць сваёй зямлі з крыжакамі і татарамі, і адначасова паказвае прадпасылкі ўзнікнення дзяржавы, якая ўвойдзе ў гісторыю пад назвай Вялікага княства Літоўскага. На гэту апошнюю тэму паказалася некалькі прац менскага даследчыка Міколы Ермаловіча, якія рашуча інакш прадстаўляюць тэрытарыяльнае развіццё г. зв. літоўскай дзяржавы, чым дагэтуль яго прадстаўлялі гісторыкі суседніх народаў. У сапраўднасці — што пацвярджае і Гайдук — Вялікае княства Літоўскае паўстала пры выдатным заангажаванні беларускага патэнцыялу, а „руская” мова і культура здамінавалі не толькі канцылярыю дзяржавы, але таксама і штодзённае жыццё элітаў балцкага паходжання.

Добра было б, каб аўтар не спыніў свае гістарычныя роздумы толькі на сярэдневяковай эпосе, а прадаўжаў гэту працу і над пазнейшымі перыядамі.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

---

*/ М. Гайдук, Паратунак, Менск 1993, выд. „Юнацтва”, с. 368.

*УВАГА! Кнігу Міколы Гайдука „Паратунак” можна набыць у рэдакцыях „Нівы” і „Czasopisa” або атрымаць за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце на адрасы „Нівы” або „Czasopisa”. Цана кнігі без коштаў перасылкі — 20 тысяч зл.*

# ПРЫСУТНАСЬЦЬ

студэнцкая старонка




## ПРЫВІТАНЬНЕ, ДАРАЖЭНЬКІЯ!

Гэта мы, два студэнты. Так, студэнты!
Сваю прысутнасьць мы ўжо даўно зазначылі, працягваючы выдаваць „Сустрэчы". Сёньня-ж, карыстаючыся гасьціннасьцю „дзядзькоў" ды „цётак" зь „Нівы", мы вырашылі зрабіць гэты тыднёвік больш атракцыйным — прынамсі для маладых чытачоў.
Праўда, няма сярод нас Лёнікаў ды Сакратаў, але яны нам не патрэбныя. Нас не хвалюе палітыка. Нічога адраджаць мы таксама не зьбіраемся. Саміх сябе мы ўжо даўно адратавалі й адрадзілі. І таму мы такія, якія ёсьць — натуральныя.
Аплакваць беларускай мовы мы ня хочам. Гэта робяць на Беларусі й бяз нас. Нас затое цікавіць: рок, піва ды сэкс. А вас...? Напішыце — мы пасьмяемся. А той, хто ня хоча сьмяяцца з намі ў „Прысутнасьці", можа перагарнуць старонку. Для такога тыпу людзей наш сябра — студэнт мэдыцыны Янка Кіянка — раіць: „Менш сала — больш вітамінаў".

Зусім неадказная рэдакцыя
**Яцэк Пракапюк**
**ды Алесь Навіцкі**

Усе скаргі й заўвагі ды, безумоўна, грошы — прышлеце на адрас:

Jacek Prokopiuk
00-905 Warszawa-Jelonki
ul. Konarskiego 56/2

## ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЕДЗЯЎ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНТА

1.
Студэнт нараджаецца стомленым і жыве, каб адпачыць.

2.
Кахай свой ложак, як сябе самога.

3.
Адпачывай удзень, каб мог рабіць беларускую справу ўначы.

4.
Калі бачыш бліжняга ў адпачынку, дапамажы яму.

5.
Навука стамляе.

6.
Тое, чаго маеш навучыцца сёньня, навучыся пасьлязаўтра — два дні будзеш мець вольныя.

7.
Калі нейкая работа зьяўляецца для цябе цяжкай — перапішы яе ад іншага.

8.
Ад студыяў ніхто яшчэ не кранууся, ад навукі — многія.

9.
Калі ў галаву табе прыйдзе думка, што ты ўкраінец, сядзь і пачакай, пакуль гэта пройдзе.

10.
Навука робіць чалавека разумным, а студыі — шчасьлівым.




**Параміліітарны**
**софт-эротык**
**з элемэнтамі нэафашызму,**
**нацыяналізму,**
**садызму ды будызму:**

*Дзяўчына маўчала зацята*
*І ў поўнач яе да бярозы*
*Прыгналі фашысцкія каты,*
*Разьдзелі — на лютым марозе.*

Г. К.

## А МЫ ПРАЧЫТАЛІ, ШТО...

Беларусы ніколі не былі пурытанскай нацыяй. Агульнавядомы факт.
*Віктар Чаропка,*
*гісторык і літаратар.*

* * *

У нармальным цывілізаваным грамадзтве ніякай эротыкі няма й быць ня можа. Вы-ж паглядзеце на нашую патрыярхальную вёску.
*Зянон Пазьняк,*
*лідэр БНФ.*

* * *

У каханьні дазволена ўсё...
*Ян Павал II,*
*рымскі папа.*

* * *

...ПРА ЛЮБОЎ СКАЗАЛІ.
*„Наша Ніва" н-р 8/1992*

# АБ'ЯВЫ

### РОЗНАЕ

* Янка! Як знойдзеш трошкі часу, прыходзь на працу. Кіраўнік.

* Магу лаяцца на 13 мовах. Шукаю спонсара.

* Бясплатна! Падару адну пару малаўжываных пратэзаў. Бліскучая ўсмешка гарантаваная!

* На гвалт патрэбная бармэнка...

* Варажу з кававай гушчы. Для кліэнтаў з уласнаю кавай 30 працэнтаў скідкі. Магістр таемных навукаў — Баба Ядвіга.

### ЗГУБЫ

* Згубленую ў невядомых акалічнасьцях цноту просьба лічыць унеаважненай.

* Беспрацоўны шукае лёгкай, неадказнай і добраплатнай працы. Адказваю толькі на прапановы салідных фірмаў (перад усім замежных) з каляровымі здымкамі сакратарак шэфаў.

### ЭЛЕКТРОНІКА

* Я заразіўся вірусам ад кампутэра майго суседа. З таго часу пастаянна малюю як Міхал Анёл і сьпяваю „Yankee-Doodle..."
Прашу парады інфарматыка альбо доктара.

Być nia moža lepšych rečaŭ ad časopisa Sustrečy

№2 1993

„SUSTREČY", WARSZAWA-MOKOTÓW, ul. Smyczkowa 5/7




Упершыню Паўліна Сурвіла паявілася на Беласточчыне летам 1989 года. Абвешаная фотаапаратамі і камерамі, са штатывам у руках, яна была ўсюды, дзе паяўляўся танцавальны калектыў „Васілёк” з Нью-Йорка, з якім менавіта прыехала да нас. Часамі танцавала, але найчасцей гаварыла з людзьмі, рабіла здымкі, фільмавала.

Паўлінка выхавалася ў Канадзе, у сям'і Івонкі і Янкі Сурвілаў — беларускіх эмігрантаў, у вялікім доме, дзе „мэблі амаль не было — адны кніжкі ды карціны”. Маці — перакладчыца з англійскай і французскай моў, загадчыца аддзела ў федэральнай адміністрацыі, у Сарбоне атрымала дыплом па англійскай мове (Канада, як вядома, афіцыйна двухмоўная). Бацька — эканаміст, старэйшая сястра штудзіравала ў Бостане справаводства, цяпер найчасцей прабывае ў Парыжы.

На Беласточчыне знаёмыя часта Паўлінку называюць памылкова Івонкай. Бо ведаюць яе маму і з канадскіх сустрэч, і па яе публікацыях у нью-йоркскай газеце „Беларус”, якую лічаць сваёй газетай. Паўлінка за гэта не крыўдзіцца.

Крыўдзіцца, калі хтось не заўважае Беларусі. У Амерыцы выдалі кніжку пра СССР з серыі „National Geographic”. Паўлінка па надпісцы атрымала гэту кніжку, прагледзела і адаслала ў выдавецтва, напісаўшы доўгі ліст, у якім даказвала, што ёсць яшчэ і Беларусь, пра якую ў кніжцы, на жаль, не было ані слова, хаця шмат было пра Літву і Украіну. Паўлінка дала тады лекцыю выдавецтву!

Восенню дзевяностага года расказвалі мне пра гэта ў Кліўлендзе. Сёння Паўлінка пацвярджае гэта.

Інтэрв'ю з Паўлінай Сурвілай было праведзена ў пачатку красавіка. Прыехала ізноў на Беласточчыну, бо пасля доўгіх змаганняў атрымала стыпендыю Фулбрайта на доктарскую дысертацыю ў галіне беларускай музыкі. Інтэрв'ю мела быць аўтарызавана, аднак, Паўлінка выехала раней, чым меркавала, у Менск, адтуль пакуль што не вярнулася.

*— Паўлінка! Можа ты растлумачыла б нашаму чытачу, што гэта за навука* — **этнамузыкалогія?!**

— Этнамузыкалогія — дысцыпліна, якая бярэ свой пачатак не толькі ад музыкалогіі і этнаграфіі, але і ад сацыялогіі, антрапалогіі ды літаратурнай крытыкі. Гэта значыць, што этнамузыколаг стараецца зразумець культуру праз музыку. А гэта не толькі ехаць на вёску і збіраць народнае, але і вывучаць усю музыку, якая адыграла значную ролю ў штодзённым жыцці.

Класічная этнамузыкалогія да 50-х гадоў (мае заўвагі датычаць амерыканскай і канадскай рэчаіснасці) базавалася толькі на народнай музыцы. Спецыялісты ехалі на вёску з магнітафонамі і збіралі песні. Ацэньвалі існуючы факт: якая гэта музыка, на якія галасы яна спяваецца; вельмі істотнай была класіфікацыя фальклорнага матэрыялу. Тады не заглыбляліся ў працэс уздзеяння музыкі, з якой жыве чалавек, на яго экзістэнцыю.

Сённяшняя этнамузыкалогія стараецца зразумець, што вывучаць культуру — гэта інтэрпрэтаваць яе не толькі з пункту гледжання этнамузыколага, але і музыканта. Гэта ж пастаянны працэс узаемадзеяння, узаемаўплываў.

Калі б вывучаць толькі народную музыку — то быў бы гэта толькі адзін бок такога працэсу — працэс узаемаўплываў чалавека і музыкі. А трэба знайсці моманты, найважнейшыя для данай культуры. Напрыклад, тое, што можа быць важнае ў Інданезіі, можа мець намнога меншае значэнне ў Беластоку.

*— А я чула, што ты іграеш якраз на многіх экзатычных інструментах, між іншым, на іспанскай гітары, на кларнеце і спецыялізуешся ў ігры на інданезійскім інструменце, які называецца гендэр, а з верхаў напамінае ксілафон. І не перашкаджае табе гэта, хаця ты — канадская беларуска?!*

— Абсалютна. Хачу, аднак, напомніць, што нарадзілася я ў Іспаніі, у Мадрыдзе.

*— Ты, Паўлінка, „міжнародны” чалавек: дачка беларускіх эмігрантаў, якая нарадзілася ў Іспаніі, выхоўвалася ў Канадзе, а музыку штудзіравала ў Мічыганскім універсітэце ў Ан-Арбары. Там жа і рыхтуеш ты ў даны момант дысертацыю?*

— Так, гэта праўда. Аднак, пачынала я вучыцца ў Атаве, ва універсітэце. Там навучылася іграць на кларнеце і атрымала ступень бакалаўра. У восемдзесят сёмым я пачала працаваць над магістэрскай працай у ЗША, у Мічыганскім універсітэце. Я тады ўжо была ўпэўнена, што хачу даследаваць менавіта беларускую музыку. А праз нейкі час высветлілася, што я ў Амерыцы першы этнамузыколаг, які зацікавіўся беларускай музыкай. У дзевяностым годзе я абараніла магістэрскую працу „Беларуская самадзейная музычная творчасць у Паўночнай Амерыцы”.

*— Што ты лічыш за найважнейшае ў гэтай працы?*

Мяне цікавіла, як беларуская музыка ўплывала на мастацкую самадзейнасць амерыканскіх беларусаў. Гэта праца больш з тэорыі культуры, там я праводжу сацыялагічны аналіз беларускай грамады. Гэтую працу я выдала асобнай кніжкай. Гэта была першая праца па-англійску на такую тэму. Мне хацелася, каб амерыканскае асяроддзе даведалася больш пра беларусаў, якія жывуць сярод іх. Гэта было вельмі важна для акадэмічнага свету.

*— А цяпер доктарская дысертацыя?*

— Каб пачаць рабіць дысертацыю, трэба было яшчэ скончыць двухгадовыя курсы і здаць дадаткова тры экзамены. Ужо цэлы год працую над дысертацыяй. Праз пару месяцаў пачну ўжо пісаць.

*— Ці ты надоўга ў Польшчу?*

— Буду калясіць між Польшчай і Беларуссю на працягу сямі месяцаў. У Менску цяпер працуе мой дзядзька Лявон Шыманец, брат маёй мамы, які пастаянна жыве ў Парыжы. Дык у яго і затрымаюся.

*— Спадар Шыманец не так даўно наведваў і нашу рэдакцыю... А што датычыць Беласточчыны, дык мо ты падзялілася б з нашымі чытачамі, што хочаш знайсці тут?*

— Мяне цікавяць розныя праявы музычнага жыцця беластоцкіх беларусаў: і традыцыйная музыка, якой займаецца найчасцей старэйшае пакаленне, і самадзейныя калектывы пры дамах культуры, і маладзёжны музычны рух, рок-музыка. Я мела магчымасць пабываць на фестывалі беларускай песні ў Беластоку і была ім захоплена. Якое багацце беларускай душы!

*— Дык, пэўна, прыедзеш і на „Басовішча”?!*

— Абавязкова!

*— Паўлінка, дзе ты мяркуеш працаваць пасля абароны працы?*

— Бадай, застанемся з мужам нейкі час у ЗША, бо там лягчэй знайсці працу, ды і наогул жыццё таннейшае. У Канадзе вельмі вялікія падаткі. Мой муж Эрык — музыкант, спецыяліст па духавых інструментах, ён ужо амаль скончыў дысертацыю. Таксама атрымаў стыпендыю Фулбрайта. Дарэчы, ён канадскі швед, мы з ім вучыліся разам яшчэ ў ліцэі, пасля ва універсітэце ў Атаве і разам прыехалі вучыцца ў ЗША. Мушу прызнацца, што было нам нялёгка. Замежны студэнт плаціў за вучобу 12 тысяч доляраў у год. Бацькі нам памагчы не маглі, трэба было працаваць, каб здабыць грошы на навуку. Ды і сёння нам пакуль што нялёгка. На стыпендыю Фулбрайта не надта разжывешся. Гэта 6000 доляраў на год, выходзіць, што ў месяц каля 500 доляраў. 500 — трэба аддаць за дом, які на нейкі час адступіла нам знаёмая (і так за сімвалічную заплату), амаль 200 ідзе на яду, ну, мо крыху менш. А яшчэ ж апараты, камеры, касеты, кінастужкі, ну, і бензін... У кожным разе на выпадак хваробы мы ўжо не страхуемся, бо за дваіх трэба было б заплаціць яшчэ 600 долараў. Ды і так трэба дарабляць. Вядома, калі ёсць праца.

Мы жывем цяпер на Фларыдзе, у невялікім, мо 300-тысячным гарадку Грынсбары, 4 гадзіны ад мора. У ім ёсць аж 17 універсітэтаў, у адным з іх мы змаглі б знайсці працу. Дарэчы, я ўжо крыху працую на гадзіны. Выкладаю тэорыю музыкі на музычным факультэце.

*— У нашым 300-тысячным Беластоку ўсяго адзін універсітэт, ды і то філія Варшаўскага... Можа, вашы універсітэты маленькія?*

— Не, калі ёсць там па 10.000 студэнтаў — гэта нямала.

*— Якія твае ўражанні аб Беласточчыне?*

— Ад восемдзесят дзевятага года ўсё надта падаражэла!

*— Нягледзячы на гэта, жыццё ідзе сваёй дарогай...*

— Ужо тады, калі я была тут першы раз, я ведала, што хачу сюды вярнуцца. Вярнуцца, каб зразумець жыццё беларусаў Беласточчыны, зразумець іх мары, што дае ім натхненне да творчай працы, да самадзейнасці, ды і наогул — які эфект тых змен, што адбыліся ў апошнія гады.

*— Ну, і які эфект, ужо ведаеш?*

— З аднаго боку лепшы, а з другога — горшы. Хочацца верыць, аднак, што лепшае пераможа. Найгоршае для мяне — што большасць вучняў Гайнаўскага беларускага ліцэя са мной размаўляе папольску. Мяне гэта вельмі разіць.

*— А мо ім здаецца, што з замежным госцем не выпадае гаварыць на „простай” мове?!*

— Мне здаецца, што ім выгадней не чуцца беларусамі... Але на канец усё ж заспявалі па-беларуску. Маё заданне — зразумець два бакі жыцця беластоцкіх беларусаў.

*— Вельмі дзякую за размову. Спадзяюся, што яшчэ будзем сустракацца.*

# РАЗГУБЛЕНАСЦЬ АД ПЕРАЛІКАЎ

— Кажуць, што ягады моцна атручаны, — пачуў я за плячамі, калі менавіта і збіраў ягады ў лесе недалёка вёскі Сацы. Побач стаяў пажылы ўжо чалавек з поўным кошыкам чорнага ляснога багацця.

— Калі яны атрутныя, дык чаму вы іх збіраеце? — пытаюся я.

Дзядзька рассмяяўся і кажа:

— Каб верыць ва ўсё, што цяпер пішуць і гавораць, трэба было б ні вады, ні малака не піць, ні мяса, ні буракоў не есці. Калі б той дурань, што гаворыць пра нейкія бацылы, пабачыў слепаватую Верку ў нашай вёсцы, асабліва калі доіць карову, а пасля сама п'е тое малако, глядзеў бы на яе, як на нябожчыцу. А яна ўжо 70 гадоў жыве, хаця рукі мые пры нагодзе, калі свіням зелле з вотруб'ем і вадою мяшае.

Прабаваў я нешта тлумачыць, што не кожны чалавек устойлівы на бруд, але дзядзька толькі махнуў рукою і засыпаў мяне новымі аргументамі. Гаварыў пра ўнукаў, якіх нявестка з Варшавы падкідае яму на канікулы, прыказваючы, каб да сабакі, ката, каня яны не дакраналіся, каб мылі рукі перад ядой, каб босыя па хаце не хадзілі, негатаванай вады не пілі.

— Часам памыюць рукі ў карыце каля студні, або ў рэчцы купаючыся, — кажа дзядзька, — але гэта ўсё што з гэтых варшаўскіх загадаў яны выконваюць, і пакуль што ніколі нічога дрэннага не здарылася. Саланіну ядуць разам са мною, ваду п'юць проста з калодзежа, а сабаку ледзь хваста не абарвалі.

— Калі яны так баяцца за сваіх дзяцей, дык чаму сын з нявесткай падкідаюць іх вам на канікулы? — пытаюся.

— Знаеце, як цяпер ёсць, сын толькі працуе, нявестцы „куранёўка” ўжо скончылася, а ў мяне „ўчасы” дармовыя.

— Але вам, пенсіянеру, таксама нялёгка.

— Ну так, рэнта невялікая — мільён дзвесце — для мяне і столькі ж для жонкі. Каб не гаспадарка, якую далей робім, было б куды горш. А так у мяне і трактар, і конь, і тры каровы, дык яшчэ з два разы столькі што „рэнта” заробім за малако, гародніну, садавіну, збожжа, яйкі.

— Якім чынам вы дабіліся гэтай рэнты, калі маеце гаспадарку? — здзіўляюся я.

— Ну што вы, — адказвае дзядзька, — пытаецеся, быццам з дрэва ўпалі. Усе пенсіянеры абрабляюць гаспадаркі, якія фармальна запісалі на дзяцей. Напрыклад, уласнік мае гаспадаркі жыве ў Варшаве і найчасцей два разы ў год бачыць сваю маёмасць. Мой сусед, які не перапісаў свае гаспадаркі на дачку і даўно ўжо здаў зямлю, плаціць на адну толькі рату 420 тысяч злотых падатку за будынкі, а я за 9 гектараў зямлі і будынкі — 90 тысяч. Толькі дурань не скарыстае з такой аказіі, каб мець рэнту і гаспадарку.

— Рэдка цяпер спаткаць задаволенага чалавека, — вырываецца ў мяне.

— А хто тут задаволены? — усхваляваным голасам адказвае дзядзька. — Праўда, за малако паштальён прынясе гэтых 2 мільёны, але што за іх купіш? За такую паўлітровую бутэльку піва трэба аддаць 4 літры малака. А паспрабуй купіць штосьці да хаты! Зараз мільёнаў патрабуюць у краме. Ну — і гэтыя падаткі.

— Але ж вы гаварылі, што падатак гэта толькі 90 тысяч злотых за тры месяцы, гэта ж цана трох бутэлек піва ў месяц.

Збянтэжаны маёй заўвагай дзядзька адказвае:

— Але ўсё-такі за камуны было лепей. Усім была праца, можна было зарабіць і нешта купіць. А цяпер як тут жыць, калі цана цэнтнера жыта гэта ўсяго 200 тысяч злотых.

— Давайце палічым усе гэтыя рахункі інакш, — прапаную я. — Разам з жонкаю, калі я вас добра зразумеў, маеце, як мінімум, у месяц 4 мільёны чыстага прыбытку. За гэтую суму вы можаце купіць або дабраякасную маразілку, або каляровы тэлевізар, або 4 веласіпеды, або 70 бутэлек гарэлкі ў краме (у „савецкіх турыстаў” нават удвая больш). У 1985 годзе каляровы тэлевізар „Рубін” каштаваў 96 тысяч, а польскі — з беластоцкага „Біязету” — 130 тысяч. За добрую карову вы маглі тады ўзяць 30—35 тысяч, за 1000 літраў малака — 12—15 тысяч. Гэта азначае, што за некаторыя тавары, якія вы можаце сёння купіць за месячны прыбытак, у 1985 г. трэба было б вам заплаціць у 5—6 разоў больш.

Дзядзька зусім разгубіўся гэтымі пералікамі і адыходзячы кажа:

— Вы, хаця гаворыце па-беларуску, але думаеце неяк так не па-нашаму. Маеце шчасце, што не расказваеце гэтых сваіх казак для нашых хлопцаў каля крамы, дзе найчасцей збіраюцца вечарам, каб пагаварыць пры бутэльцы піва. Без лекара вам бы не абыйшлося!

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЛІПЕНЬ

Лета ў разгары. Пасняваюць суніцы, парэчкі, чарніцы, маліна, касцяніцы... Зацвітае ліпа. Вакол маленькіх белых кветачак гудуць пчолы. Паветра насычана мядовым водарам. Калі ў чэрвені пераважным колерам лугавых траў быў ружова-фіялетавы са светла-жоўтымі крапінамі, то ў сярэдзіне лета афарбоўка мяняецца — з'яўляецца больш жоўтых і цёмналіловых фарбаў. Зацвілі дуброўка, лаганец, чына, званец, мышыны гарошак, званочак. Красуюцца кветкі дзікай цыкорыі.

Працягваецца нераст уюна і верхаводкі. Пачынае ліняць рак.

Хораша ў лесе ліпеньскай раніцай! Паветра насычана пахамі траў, спелых ягад, смалістай хвоі. І незвычайна ціха. Але вось быццам нехта стукае ламачынай па дрэве. Пастукае, пастукае і сціхне. Гэта дзяцел адшуквае ў драўніне карадаў і іншых насякомых. У густых кронах дрэў сям-там мільгаюць вёрткія ваверкі. З хмызняку выглядвае пысачка невялікага рыжага звярка — лісянятка выйшла на першае самастойнае паляванне. З маладога асінніку спяшаецца да рачулкі сям'я аленяў.

У ціхія цёплыя вечары па берагах рэк можна назіраць „зімовую мяцеліцу". Гэта пачалі лятаць аўсянікі, невялікія насякомыя з доўгімі „ніткамі" на канцы цела. Жывуць аўсянікі ўсяго некалькі гадзін і паміраюць на ляту, падаючы ў ваду або на зямлю. Але самкі перад смерцю пасняваюць адкласці ў ваду яйкі, з якіх выведуцца лічынкі. Калі лятаюць аўсянікі, для рыб свята. Не толькі жвавыя верхаводкі, але і спрытныя галаўні і буйныя язі выскокваюць з вады, хапаючы смачную здабычу. Нават лешч і той падскоквае, каб паласавацца аўсянікам.

А з вялікага мурашніка раптам выпаўзаюць сотні крылатых мурашак. Гэта мурашыныя самцы і самкі. Роем яны ўзнімаюцца ўверх і адлятаюць. Маладыя самкі дзе-небудзь апусцяцца на зямлю, адгрызуць непатрэбныя ім больш крылы, выроюць ямку і адкладуць першыя яйкі. Так з'яўляюцца новыя мурашнікі.

Сонца ўзнімаецца вышэй. Пачынае прыпякаць, але ў лесе гарачыня не адчуваецца. Пад кронамі дрэў пануюць паўзмрок, прахалода і цішыня.

**А. КУРСКОЎ**

## ГЭТА ЦІКАВА

Адна рапуха можа знішчыць столькі шкоднікаў, колькі адзін кажан. За лета на 1 гектары агарода рапухі і жабы з'ядаюць да 100 тысяч насякомых, большасць з якіх — небяспечныя шкоднікі. Жаба палюе ў любы час сутак, толькі б было вільготна і цёпла. А рапухі — толькі з надыходам вечара. Яны знішчаюць многа слізнякоў, вусеняў, мнаганожак, жукоў, матылькоў, лічынак.





*Я — дзяўчынка-беларуска...* **Фота М. Лукшы**

## ЯК ІНА НЕВІДЗІМКУ ПЕРАМАГЛА

Жыла-была дзяўчынка Іна. Аднойчы прыйшла яна з мамай у дзіцячы сад. І ўбачыла ў сяброўкі Тані на кофтачцы прыгожы значок.

— І я хачу значок, — усхліпнула Іна.

— Добра, — паабяцала мама, — куплю табе ў кіёску.

А назаўтра Іна ўбачыла ў Светы новыя чырвоныя туфлікі і пачала прасіць:

— Мама, купі і мне такія туфлікі, як у Светы!

— У цябе добрыя сінія туфлікі, — адмовіла мама.

Увесь дзень Іна думала пра чырвоныя туфлікі і была злосная, сварылася з дзецьмі. А Свету так штурхнула, што тая павалілася.

Потым Іна ўбачыла на Каці сукенку з вышыўкай, і зноў быццам нехта шапнуў ёй: „А ў цябе няма такой!" У абед яна як бы незнарок папхнула Каціну талерку, і боршч выліўся на новую сукенку. Каця заплакала.

Вось якая была Іна. Калі ёй што-небудзь купляли, радавалася, але нядоўга. Убачыць на двары ці ў садзе ў каго абнову і зноў зайздросціць: „А ў мяне няма!" І ходзіць хмурная, злосная.

Мама трывожылася, бедавала, напісала пра гэта бабулі, якая жыла ў другім горадзе. І бабуля прыехала ў госці.

Яна гуляла з Інай, расказвала ёй казкі, а неяк перад сном, абняўшы, ціха сказала:

— Нейкая ты невясёлая, унучка. Што здарылася?

— Ах, бабуля! — уздыхнула Іна. — Кепска мне жывецца. Мама сварыцца, у садзе дзеці не хочуць са мной гуляць. Учора выхавальніца ў кут паставіла, бо я адну дзяўчынку шчыпала.

— Навошта ты яе шчыпала?

— У яе ёсць калыска для лялькі, а ў мяне няма.

Бабуля падумала і сказала:

— Я ведаю, Іначка, як табе дапамагчы. У цябе завялася зайздрасць. Трэба прагнаць яе.

— А дзе яна, бабуля?

— Гэтага я не ведаю, яна — невідзімка.

— А як жа яе прагнаць?

— Я навучу. Калі яна будзе шаптаць: „У цябе няма! У цябе няма!" — ты скажы: „А мне і не трэба! Мне і так добра!" Скажы так і абавязкова ўсміхніся. Тады яна пакрыўдзіцца і неўзабаве сама ад цябе ўцячэ... Паспрабуй...

Раніцай Іна ўбачыла ў Пеці прыгожы блакітны самалёцік, і ёй да слёз захацелася мець такі ж. Але яна ўспомніла бабуліны словы і зашаптала: „А мне і не трэба! Мне і так добра!" Потым усміхнулася. І адразу ёй стала весела, і яна паклікала Пецю гуляць у мяч.

Так паўтаралася некалькі разоў. І нарэшце зайздрасць сапраўды пакрыўдзілася і ўцякла. Іна цяпер заўсёды вясёлая, не капрызіць дома, не крыўдзіць дзяцей у садзе. І ўсе ахвотна сябруюць з ёй.

**ЯЎНІКА БАРЫЧЭЎСКАЯ**

*ВІКТАР ШВЕД*

### ГІСТОРЫЯ ЛЮБІЦЬ ПАЎТАРАЦЦА

У школе на бацькоўскім сходзе
Настаўнік поспехі Валодзі
Цікаўнаму тлумачыць тату:
— З гісторыяй ў сына слабавата.
— Вось і ў мяне было калісьці гэтак,
Меў клопаты я з тым прадметам.
Таму не трэба дзівавацца,
Гісторыя любіць паўтарацца!

### СВІНСКІЯ МЯНУШКІ

Настаўнік запытаў дзяцей:
— Карысць якая ад свіней?
— Вядома, смачнае з іх мяса, —
Сцвярджаюць дзеці цэлым класам.
— Са скур свінячых маем боты, —
Дабавіла яшчэ Дарота.
— А ўжо найбольш, — сказаў
Паўлушка, —
Мы любім... свінскія мянушкі!

### ЯК ДОЎГА ХОДЗІЦЬ СЫНОЧАК?

Маму ўжо вымучыў Валодзя,
Без перапынку ў парку ходзіць.
Прысела мама на хвіліну
Каля старэнькае жанчыны.
Даведацца бабуля хоча:
— Як доўга ходзіць ваш сыночак?
— Паўгода, — хваліцца мамуся.
— Дык надта змучаным быць мусіць.

*МІХАСЬ ПАЗНЯКОЎ*

### ВЕРАБЕЙ

Верабей са школы
Пад страху ляціць,
Ціхі, невясёлы,
Нібы ліст, трымціць.
То смяшыў сароку,
То лятаў на ўроку.
Так хацеў забаў —
Двойку атрымаў.

*АЛЕСЬ КАСЬКО*

### ХВАЛЬКО

— Калі моцна захачу,
кошку гаўкаць навучу.
А яшчэ як захачу —
пераскочу каланчу.
Захачу — і палячу,
зоркі ў небе палічу.
— Паспрабуй жа паляцець!
—Расхацелася хацець...

*АЛЕСЬ БАДАК*

### ЗАЙЧАНЯТКІ

— Дзе былі вы,
Зайчаняткі?
—Загаралі
Каля градкі.
— А пасля куды
Прапалі?
— Маме дома
Памагалі.
Мылі міскі,
Мылі лыжкі,
Акуратна склалі
Кніжкі.
— Ну а што пасля
Рабілі?
— Да мядзведзіка
Хадзілі.
Пазаўчора яму
Дзед
Падарыў
Веласіпед.
І цяпер мы
На палянцы
Разам вучымся
Катацца.
Хочаш,
З намі павучыся —
Толькі ты,
Глядзі,
Не бійся!

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

У спрыяльнае надвор'е краі тоўстых воблакаў вельмі рэзка акрэсленыя — перад непагаддзю.

У час непагадзі вецер рэзка мяняе кірунак з усходняга на заходні — надвор'е палепшыцца, і палепшыцца хутка.

З-пад зямлі вылез крот — быць дажджу.

Зоркі ноччу як у тумане — перад дажджом.

Дождж пайшоў на досвітку — хутка перастане.

# ЖАБА Ў КАМПОЦЕ

Цётка Надзя сустрэла Толіка з мамай каля брамкі. Толік павітаўся і адразу спытаў:

— А ў вашым садзе жабы жывуць?

— Жабы? Такога дабра хапае. А нашто яны табе, Толік?

— У тэрарыум пасаджу.

— А што гэта? — насцярожылася цётка.

— Такая скрыня з пяском і вадой. У ёй трымаюць жаб, трытонаў, яшчарак, гадзюк...

Іх размову перапыніла мама.

— Запомні, сынок: каб я гэтых жаб у доме не бачыла! Інакш назад у горад адвязу.

Толік так і не зразумеў, чаму дарослыя не любяць жаб. Яны ціхія, бяскрыўдныя, ніколі не кусаюцца, ядуць розных мошак, чарвякоў. У школе Толік любіў назіраць за жабамі ў жывым кутку. А цяпер захацелася мець свой тэрарыум. І ён пайшоў у сад шукаць жабу.

Зазірнуў пад старое бервяно каля плота і бачыць: яна, жаба. Бурая, пляскатая, у бародаўках. Усім жабам жаба. Міргае залацістымі вачамі і разяўляе рот. Горача беднай. Ну, нічога, ёй у тэрарыуме будзе добра.

Прынёс Толік жабу ў хату, пасадзіў у скрыню і засунуў пад ложак.

— Сядзі ціха, — сказаў, — пакуль я табе мух налаўлю.

Мама з цёткай Надзяй на кухні абед варылі. Занятыя справай, яны не заўважылі, як жаба вылезла з-пад ложка і паскакала па хаце.

Толік ужо налавіў поўную жменю мух. Раптам чуе крык: „Ратуйце!" Ад нечаканасці ён усіх мух выпусціў з кулака. Што там здарылася? З усіх ног кінуўся на дапамогу.

Бачыць — каструля з кампотам стаіць на падлозе. А ў кампоце жаба плавае. Весела пялёскаецца, лапкамі вяслуе, нырца дае. Быццам яна не ў кампоце, а ў моры якім. Толькі мора не салёнае, а салодкае. Цётка Надзя ўсё крычыць: „Ратуйце!" А каго ратаваць? Мама не крычыць, толькі глядзіць у каструлю, на жабу, як на дзіва якое.

Сумелася жаба, выбралася з каструлі і паскакала да цёткі Надзі. Прысела на заднія лапкі перад ёю і глядзіць: ну, чаго крычыш?

Цётка Надзя ўскочыла на табурэтку. Мама на жабу мокрай анучай замахнулася: пайшла прэч!

Пакрыўдзілася жаба і паскакала на ганак, а адтуль — у сад.

Што далей было? У Толіка зусім сапсаваўся настрой. Не толькі таму, што яго ў кут паставілі. Шкада было жабу, якую так пакрыўдзілі, з хаты прагналі. А тут яшчэ дождж пачаўся, шэранькі, нудны. Заплакалі ў садзе дрэвы і кусты, нібыта хацелі, каб і Толік паплакаў з імі за кампанію.

А пасля дажджу выбліснула сонца. Выйшаў Толік у сад, бачыць: у лужыне жаба плавае. Брудная, пляскатая, у бародаўках. Мабыць, тая самая. Сцішылася, глядзіць на Толіка залацістымі вачамі і нібыта кажа: „Не трэба мне вашага кампоту. Не саджайце толькі мяне ў тэрарыум, у тую цесную скрыню".

Паглядзеў Толік на жабу і не стаў яе чапаць. Пайшоў сабе далей.

У садзе камары мак таўклі, павучкі пнялі павуціну, пчолы духмяны пылок з кветак збіралі. У кожнага — свой занятак, свае клопаты. А ў скрыню нікому не хацелася.

**ПЯТРО ВАСЮЧЭНКА**

# ЛІСІЧКІ

Тым яны, відаць, і дарагія, што з'яўляюцца першымі.

У лесе яшчэ няма ніякіх грыбоў, а яны жоўтымі грамафончыкамі там і сям пачынаюць радаваць вока грыбніка.

У вёсцы жанчыны не адмылі рук ад чарніц, а я ўжо па першыя лісічкі ў лес іду.

— Ці не ў грыбы? — здзіўляюцца аднавяскоўцы.

— У грыбы.

— Якія ж зараз, цікава, грыбы, калі лес ягадамі завалены?

— Што ж, праверым, — адказваю.

Прыходжу ў стары бор, на тое месца, дзе на прагалінцы гнілы пень рассыпаецца ў рыжую пацяруху. Дакладна праверана: няма тут лісічак, значыць нідзе іх яшчэ не будзе. А калі ж зажаўцелі, праз тыдзень-паўтара, яны абавязкова з'явяцца і ў іншых лясных мясцінах.

А вось і знаёмае месца. Гляджу на рыжы падсціл каля пня і засмучаюся — няма грыбоў. Ну што ж, няма дык няма. Раней належнага часу не прымусіш іх расці. Прысядзеш, каб сарваць некалькі буйных ягад, якія так і просяцца ў рот. Уперадзе, бачыш, нешта зажаўцела. Быццам агеньчык у цемры бліснуў. Таропка расхінаеш зялёны ягаднік — лісічка! А крыху правей яшчэ некалькі грыбкоў.

І толькі цяпер заўважаеш каля пня месцамі прыўзнятую леташнюю лістоту, з-пад якой малюсенькія, велічынёю з напарстак грыбкі хітравата на цябе пазіраюць.

Тыя лісічкі, што выраслі ў цяністым ягадніку, буйныя, ломкія, да спацелых шапачак прыліпла рознае ляснос смецце. На адкрытым жа месцы грыбкі маленькія, сухія, з падсмажанымі да бураватасці на сонцы краямі.

Пачынаеш нетаропка хадзіць вакол пня, уважліва ўглядаючыся ў сплецение густога ягадніку. І кошык, хаця і марудна, але ўсё ж напаўняецца жоўтымі дарункамі летняга лесу.

Здаецца, зусім непрыкметныя грыбы лісічкі, а сэрца пры першай сустрэчы з імі так радуецца, як і тады, калі збіраеш прыгажуноў баравікоў альбо падасінавікаў.

**РЫГОР ІГНАЦЕНКА**

# А * Д * Г * А * Д * А * Н * К * А



*Знайдзі два аднолькавыя каласкі.*

*ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ*

# НЕПРЫВАБНЫЯ, АЛЕ КАРЫСНЫЯ

Аднойчы летам я збіраў ягады ў Лыкаўскім лесе, што непадалёку ад Магілёва. У пошуках іх выйшаў на лінію электраперадачы. Пайшоў уздоўж яе і наткнуўся на ўчастак апрацаванай зямлі. Расла бульба. Бацвінне высокае, тоўстае, разгалінаванае і чыстае. Ні каларадскіх жукоў, ні прыкмет захворвання на ім не было. Не было і пустазелля. Відаць, лясны арандатар быў чалавекам працавітым і акуратным.

Падышоў я бліжэй, рассунуў бацвінне і ад нечаканасці аж здрыгануўся: сцябліны раптам заварушыліся, і ў лес пачалі ўцякаць вужы, жабы. На бульбяной плантацыі паўзуны і земнаводныя не толькі грэліся, але і палявалі на розных шкоднікаў. Яны практычна ахоўвалі плантацыю.

Існуе ў сельскай гаспадарцы нямала спосабаў барацьбы са шкоднікамі і рознымі хваробамі культурных раслін. Апошнім часам асаблівае распаўсюджванне набыў хімічны метад аховы раслін - прымяненне хімічнай атруты, хімічных угнаенняў, якія прыносяць прыродзе і чалавеку больш шкоды, чым карысці.

Але самы просты і самы эфектыўны спосаб барацьбы са шкоднікамі сельскагаспадарчых культур - прыцягненне тых прадстаўнікоў жывёльнага свету, якія харчуюцца гэтымі шкоднікамі.

Але не ўсе ведаюць, што большасць пералётных птушак найбольш інтэнсіўна харчуецца насякомымі і выкормлівае птушанят толькі ў першую палову лета. А што рабіць чалавеку, каб захаваць ураджай? Вось у гэты час і прыходзяць яму на дапамогу тыя жывёліны, якіх звычайна людзі не заўважаюць ці нават палохаюцца, - земнаводныя або паўзуны.

На жаль, нярэдка даводзіцца назіраць, як дзеці з-за няведання, а дарослыя і наўмысна забіваюць неядавітых гадзюк, жаб, адрываюць хвасты яшчаркам. Асабліва дастаецца апалонікам - лічынкам жаб, яны знішчаюцца ў вялікай колькасці. Эканамісты падлічылі, што чалавек, які забіў адну гадзюку, нанёс народнай гаспадарцы ўрон на вялікія грошы. Шмат паўзуноў і земнаводных гіне ў час уборкі ўраджаю пад нажамі касілак і жняярак, пад плугамі і баронамі, у час лясных пажараў. Ды і ворагаў у іх шмат.

Гадоў дваццаць назад у Клічаўскіх лясах гадзюк вадзілася вельмі шмат. Яны проста ляжалі на палянах, як скруткі чорных шлангаў, грэліся на сонцы.

Цяпер і ў гэтых мясцінах, і ў многіх іншых не відаць гадзюк. У прыродзе робіцца пуста і сумна.

Нашы турысты, што пабывалі за рубяжом, расказваюць: у некаторых краінах для садаводаў спецыяльна разводзяць жаб. І жабы і паўзуны прыносяць вялікую карысць сельскай гаспадарцы. Гадзюкі, напрыклад, знішчаюць мышэй, пацукоў і такім чынам аберагаюць ураджай. Жабы асабліва карысныя на агародах і бахчах. Ноччу, калі птушкі і іншыя "паляўнічыя" на насякомых спяць, яны ловяць вусеняў, смаўжоў і іншых шкоднікаў. За лета на адным гектары агарода жабы з'ядаюць да ста тысяч насякомых.

Вельмі карыснымі сярод паўзуноў з'яўляюцца яшчаркі. Напрыклад, бязногая яшчарка жаўтапузік харчуецца галоўным чынам вінаградными вусенямі і смаўжамі. Па працаздольнасці многія віды яшчарак можна параўнаць з насякомаеднымі птушкамі. Яны харчуюцца такімі шкоднікамі, як лугавы матыль, яблыневая пладажэрка, соўкамі, агнёўкамі, саранчой, хрушчамі і іншымі.

У прыродзе ўсё ўзаемазвязана. Парушэнне экалагічных сувязей прыводзіць часам да непапраўных вынікаў.

Земнаводныя і паўзуны - адно са звенняў агульнага ланцуга, якое неабходна ў прыродзе не толькі само па сабе, але і для аховы прыроды. У гэтай сувязі, думаецца, трэба часцей гаварыць і пісаць аб іх карысці ў практычных дзеяннях чалавека, а значыць і аб іх ахове, а не знішчэнні.

Канечне, жабы - гэта не птушкі. Іх цяжэй прыцягнуць на пэўную тэрыторыю. Таму трэба асцярожна злавіць, перанесці і выпусціць у сады ці агароды. Навука даказала, там, дзе многа земнаводных і паўзуноў, там менш за ўсё шкоднікаў. Таму і бульба ў лесе, пад лініяй электраперадачы, была чыстай.

Трэба, відаць, больш ведаць, перадаваць адзін аднаму гэтыя веды пра такіх непрывабных на першы погляд жывёл, як гадзюка, вуж, жаба, яшчарка. Тады і не з'явіцца ў чалавека жадання забіваць іх. А прырода аддзякуе чалавеку за гэта.

**АНАТОЛЬ ГАРБУЗАЎ**

*БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ*

# У ПАЛАЧКУ-БУЛАВАЧКУ

Збіраюцца некалькі хлопчыкаў і мераюцца на палцы: адзін абхватвае рукою ніжні канец палкі, наступны шчыльна над ім і г.д. Калі ўсе возьмуцца за палку, а верхні канец яе яшчэ свабодны, тады першы хлопчык прымае руку знізу і абхватвае палку вышэй. Тое ж робяць і іншыя, пакуль не застанецца свабоднага месца. Той, чыя рука будзе наверсе, павінен „ісці ў поле". Гэта значыць яму кідаюць далёка па вуліцы палку, і ён павінен бегчы за ёю і прынесці „да агню" — звычайна да таго месца, адкуль палку кідалі. Пакуль палявы бегае за палкай, астатнія ўдзельнікі гульні павінны схавацца хто куды. Палявы прыносіць палку да варот, „адстукваецца" і гаворыць:

*Палачка-булавачка дамоў*
*прыйшла,*
*Дома нікога не знайшла.*
*Каго першага знойдзе,*
*Той за палачкай пойдзе!*

Палявы падкідае палку і ідзе шукаць таварышаў, якія схаваліся, а тыя стараюцца скарыстаць момант, схапіць палку і „адстукацца". Калі ім гэта ўдаецца, палявому зноў даводзіцца „ісці ў поле", а астатнія зноў хаваюцца. Калі ж палявы заўважыць каго-небудзь раней і сам адстукаецца, тады „ў поле" ідзе знойдзены ім хлопчык.

Умовы гульні ўскладняюцца тым, што палявога прымушаюць знайсці або застукаць усіх удзельнікаў. А гэта даволі цяжка, калі ўдзельнікі хаваюцца далёка ад палкі. Калі мераюцца на палцы, можа застацца свабодным маленькі кончык палкі, які нельга абхапіць усёй далонню, а толькі адным-двума пальцамі. Тады апошні хлопчык, чый палец наверсе, пратэстуе, і адбываецца „суд". На „суд" ідуць хлопчык, чый палец зверху, і яго сусед. Апошні бярэ ў руку палку за гэты маленькі кончык, а той, хто скардзіцца, павінен выбіць у яго з рукі палку сваёй шапкай або паскам. Калі гэта яму ўдаецца, „у поле" ідзе яго сусед, калі не — у поле ідзе хлопчык, што скардзіўся „ў суд".

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ЧАРНІЦЫ ЛЕЧАЦЬ ДЫЯБЕТ

Паводле адной з легенд, у старажытныя часы жыхары дрымучых лясоў — гномы былі пазбаўлены прыстанішча, паколькі людзі даведаліся пра іх неверагоднае багацце і пачалі перакопваць зямлю ў пошуках скарбаў. Доўга кідаліся гномы па лесе, пакуль не зліталаваўся над імі чарнічны куст і не схаваў гэтых маленькіх чалавечкаў. Тады ў падзяку за дапамогу гномы рассялілі чарнічнікі па ўсім свеце.

І сапраўды, гэты дробны кусцік з сям'і бруснічных (*Vaccinium myrtillus* L.) з доўгім паўзучым карэнішчам, авальнымі лісткамі і адзінарнымі ці парнымі зеленавата-белымі з ружовым адценнем кветачкамі шырока распаўсюджаны ў нашай краіне. У хвойных і хвойна-ліставых лясах чарнічнікі часта цягнуцца на многія кіламетры.

У канцы мая, калі чарніцы зацвітаюць, пчолы збіраюць з расліны нектар, з якога выпрацоўваюць прыемны на смак і араматны мёд крыху чырванаватага ці зусім светлага колеру.

Чарніцы — чорныя круглыя ягады з сіне-блакітным, васкаватым налётам, дыяметр іх да 1 см. Іх ядуць сырымі і кансервуюць на зіму. Чарніцы здаўна карысталіся славай у нашых людзей. З соку чарніц атрымлівалі фіялетавую фарбу, якая выкарыстоўвалася ў скураной і харчовай прамысловасці, а травазнаўцы лічылі чорныя ягады першым сродкам пры захворваннях страўніка, асабліва ў дзяцей.

Для лячэбных мэтаў збіраюць лісце чарніц ранняй вясною ці пад канец лета, а пасля сушаць у ценістым і прадзьмуным месцы. Атрымліваюць сыравіну — лісце чарніцы (*Folium Myrtilli*). У ліпені збіраюць спелыя ягады чарніцы. Каб даўжэй захоўвалі яны свае карысныя якасці, іх спачатку прасушваюць на паветры, у цяні, рассыпаўшы тонкім пластом на тканіне ці паперы, а пасля сушаць у печках, духоўках ці ў сушарнях пры тэмпературы, не вышэйшай 60—70°С. Пры вышэйшай тэмпературы ягады падгараюць, а пры ніжэйшай — кіснуць і пляснеюць. Добра высушаная сыравіна не павінна пэцкаць рукі пры перасыпванні і збівацца ў камкі. Са ста кілаграмаў свежых ягад атрымліваюць 15—18 кг сухіх; яны могуць захоўвацца на працягу некалькіх гадоў.

Лячэбныя якасці чарніц абумоўлены перш за ўсё дубільнымі рэчывамі, а смакавыя якасці — цукрамі, лімоннай, яблычнай і іншымі арганічнымі кіслотамі. Багатыя чарніцы і пектынавымі рэчывамі, якія садзейнічаюць вызваленню кішак ад прадуктаў раскладу, а таксама солямі жалеза. Пры гэтым жалеза, якое знаходзіцца ў ягадах, намнога лепш засвойваецца ў параўнанні з лекавымі прэпаратамі жалеза, паколькі ў ягадах чарніц яму спадарожнічае аскарбінавая кіслата і іншыя карысныя для арганізма чалавека спалучэнні.

Свежыя ягады чарніц рэкамендуецца прымаць пры парушэнні працы страўніка і кішэчніка, а таксама для павышэння вастрыні зроку, пры рэўматызме, падагры і іншых захворваннях. Ягады гэтыя выкарыстоўваюцца для падрыхтоўкі адвару ці чаю, які прымяняецца як добры мачагонны і вяжучы сродак пры малакроўі, начным нетрыманні мачы, пры пяску ў нырках і г. д.

У народнай медыцыне ягады чарніц цэняцца таксама як сродак супраць глістоў. Выкарыстоўваюць чарніцы і пры экземах, апарваннях, прышчах, ранах, якія цяжка гояцца і іншых захворваннях скуры. Свежыя ягады таўкуць у ступцы, праціраюць праз сіта і атрыманую масу кладуць тоўстым пластом на хворыя месцы.

Але, што бадай найважнейшае, лісце чарніц лечыць **дыябет**, ці папулярную цукрыцу. У ім ёсць асобыя хімічныя рэчывы — гліказіды міртылін і неамірталін, якія маюць здольнасць зніжаць узровень цукру ў крыві. Пры лячэнні цукрыцы лісце чарніц (60 г) заліваюць літрам кіпетню і робяць адвар. Працэджаны адвар п'юць па дзве сталовых лыжкі тры разы ў дзень.

**Адвар з лісця чарніц супроць паносу**

1 лыжку лісця чарніц заліць паўтара шклянкамі гарачай вады, падаграваць да кіпення і варыць на малым агні 5 мінут. Настойваць 10 мінут, працадзіць. Піць 1/4—1/3 шклянкі адвару некалькі разоў у дзень паміж ядою. Маленькім дзецям даваць па адной чайнай лыжачцы некалькі разоў у дзень у пачатковай стадыі паносу і катары кішак.

**Адвар з ягад**

1—3 лыжкі сушаных ягад заліць паўтара шклянкамі гарачай вады і варыць 5—7 мінут пад пакрыўкай. Настойваць 10 мінут, працадзіць. Піць па паўшклянкі 2—3 разы ў дзень пасля яды або вечарам і раніцай па 2/3 шклянкі. Дзецям даваць адпаведна менш. Гэта стары сродак супраць паносу.

**Стэрылізаваныя ягады**

Усыпаць у слоік памытыя ягады, дадаць вады да 2/3 іх аб'ёму і пару лыжачак цукру. Шчыльна зачыніць слоік і стэрылізаваць яго ў вадзе на працягу 15 мінут ад пачатку кіпення. Такія ягады будуць добрыя нават і праз 2—3 гады. Дарослыя прымаюць па 2—5 лыжак 2 разы ў дзень, дзеці і моладзь — адпаведна менш. Прымяняць пры паносе і катары кішак, атручэннях, асабліва ягадамі ці садавінай, пры хваробах страўніка, выкліканых віруснай інфекцыяй.

**Парашок супраць глістоў**

Змяшаць па 5 г растоўчаных сухіх ягад чарніц, кветак піжмы звычайнай (wrotycza — *Tanacetum vulgare* L.) і карэнняў дзівасілу высокага (omanu — *Inula helenium* L.) з мёдам ці джэмам і прыняць нашча, запіваючы шклянкай вады ці напітку.

**„Diabetosan"** („Herbapol"): 2—3 лыжкі зёлак заліць 2—3 шклянкамі гарачай вады і варыць пад пакрыўкай 2 мінуты. Настаяць 10 мінут і працадзіць у тэрмас. Піць 2—3 разы ў дзень паміж ядою па 2/3 шклянкі.

**ЭСКУЛАП**




**ВЕР-НЕ-ВЕР**

Астронку! Я вельмі заклапочана. Мая дачка прабуе сёлета паступіць у Медыцынскую акадэмію. Конкурс даволі вялікі: чатыры асобы на адно месца. Ужо яна здала тыя тэсты, але мы не ўпэўнены, што яна пройдзе па конкурсу.

І сніцца мне тут вось такое. Быццам я знаходжуся ў бацькоўскай хаце. І паяўляецца мой бацька-нябожчык. У куце цэлая куча непатрэбных, старых рэчаў. Але ўсе яны даволі акуратна складзены. Мы нешта сварымся за іх, і раптам я заўважаю, што размова сышла на іншыя тэмы. Я пачынаю дакараць бацьку, што ён занадта нервовы, што каб быў спакайнейшы, дык не захварэў бы і не памёр. Усё з-за гэтых нерваў...

А пасля прысніўся мне яшчэ брыдчэйшы сон. Бачу сваю знаёмую. У яе панос. Я ўзяла туалетную паперу і падцерла яе. Думаю, што ўсё прапала. А ты, Астроне?

**Габрыся**

Габрыся! Твой першы сон сведчыць якраз аб тым, што ты змагаешся з нейкімі цяжкасцямі. Паглядзі сама. Бацька ў сне, хаця і нябожчык, наўхільна прадвяшчае нейкую цяжкую сітуацыю, праблему. А ты з гэтымі праблемамі змагалася. Я не ўпэўнены, што пераможаш у гэтым змаганні. Тым больш, што была яшчэ куча непатрэбных рэчаў. Ці не дарма ўсё. Што датычыцца другога сну, дык і ён па сутнасці напамінае першы. Падціраеш бруды, непрыемна табе. Відаць, на гэты раз не выйдзе ў тваёй дачкі. Мо яшчэ будзе добра. Няхай не траціць надзеі і вучыцца. Напэўна здасць на другі год.

**АСТРОН**









*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ЦЫБУЛЯ З РЫБНЫМ ФАРШАМ**

Прадукты:

*4 вялікія цыбуліны,*
*20 дэкаў вараных ці смажаных рыбных філеяў,*
*1 шклянка мяснога ці рыбнага булёну,*
*5 дэкаў масла ці алею*
*соль і перац па смаку.*

Абабраную цыбулю ўкінуць на 5 мінут у кіпецень. Калі яна змякне, адцадзіць яе, астудзіць, зрэзаць вярхушкі, выняць сярэдзіну. Вынятую цыбулю пасячы, падсмажыць, перамяшаць з рыбай, запрaвіць па смаку. Павінна атрымацца даволі гладкая маса.

Падрыхтаваным фаршам напоўніць цыбуліны, накрыць зрэзанымі вярхушкамі, палажыць іх у каструльку, даліць булёну і стушыць пад пакрыўкай.

**ГАСПАДЫНЯ**

# КРЫЖАВАНКА



**Упоперак:** 2. калючая зброя насякомых, 4. іспанскі рыцар, 6. дарога, шлях, 7. металічны пояс на бочцы, 9. харвацкі князь, 11. мука з аўса, 12. адхіленне ад галоўнай тэмы да пабочнага пытання, 13. горад у Сербіі, 15. колер карты, які лічыцца старшым, 17. лірычны чатырнаццацірадковы верш, 18. ахова лесу, 19. вялікі японскі горад.

**Уніз:** 1. ператварае неарганічныя рэчывы глебы ў арганічныя, 2. цэнтр ядзерных даследаванняў пад Масквой, 3. нагляд, кантроль, 4. грозная жывёла трапічных вадаёмаў, 5. жыхарка Кеніі, 6. трохрублёвы банкнот, 8. высокая травяністая расліна, 9. нямецкая сталіца, 10. Томас, англійскі пісьменнік (1567-1601), 14. горад у Іране, 16. Барыс, аўтар „Сентэнцый" у „Ніўцы", 17. адзінка мовы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 22 н-ра:** дула, доля, руда, Одра, дама, мода, дуга, друг, джаз, доза, рада, бруд, лорд, плод, арда, абед.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч з Беластока.**

* * *

**МІНІ-ДАВЕДНІК**

* **Кабальера** (ісп. *caballero* ад *caballo* — конь,) — коннік, рыцар.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляры), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1993 r. upływa 20 sierpnia 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 39 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

**ЗАЎСЁДЫ НАПЕРАДЗЕ**

Літгільдыі перадавая дама
Герояў неба славіла і БАМа.
Ды з гулам часу памяняла крэн.
Прыцісні даму, бізнесмен.

**ТОСТ**

Вас многа, я — адна.
Дык да дна!

**СІДАР МАКАЦЁР**

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Дыктатар** — кіраўнік нацыі, якая лічыць за лепшае мець заразу дэспатызму, чым эпідэмію анархіі.

**Дыпламатыя** — патрыятычнае мастацтва ілгаць на карысць сваёй дзяржаве.

**Дыскусія** — метад, з дапамогай якога вы запэўніваеце іншых, што яны зусім не маюць рацыі.

**Дыягназ** — акрэсленне доктарам хваробы шляхам бадання пульса і кашалька пацыента.

**Дыямент** — мінерал, які часта знаходзяць за гарсэтам. Лёгка ператвараецца ў золата.

**Жабрак** — чалавек, які залішне разлічваў на дапамогу сяброў.

**Жанчына** — істота супрацьлеглага, не заўсёды прыгожага полу. Часта жыве паблізу мужчыны, і часам яе магчыма прыручыць. З іншых жывёл да жанчын больш за ўсё падобны кошкі.

**Жыццё** — духоўны лёк, у якім захоўваецца цела. Кожны дзень мы баімся яго страціць, хаця пасля страты ўжо не шкадуем. Пытанне: „Ці варта жыць?" разглядаецца з даўніх часоў, асабліва актыўна тымі, хто лічыць, што не варта. Хаця менавіта яны жывуць даўжэй за іншых.

**Забіць** — стварыць вакансію.

**Зануда** — чалавек, які гаворыць тады, калі вы хочаце, каб ён слухаў.

*З англійскай пераклаў*
*АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ*

## МЫ ПАЧУЛІ, ШТО...

... у Бельску паўстаў BBWR (Białoruski Blok Wyborczo-Rewolucyjny),

... пэўныя колы запрапанавалі перайменаваць Беларускі музей на Беларускі маўзалей,

... Сакрат Яновіч, каб засцерагчыся ад старэчай разлезласці, штодзённа займаецца гімнастыкай, плаваннем і боксам-„мардабоем".

# НАЎКА



*Мал. М. Сеўлюка*

## ЛЕГІТЫМНЫ ГУЗАК

*(гумарэска)*

Сустракаю нядаўна дзядзьку Рамана. А на лбе ў яго — наліўны, нібы перапелая сліва, гузак — так і вылузваецца з-пад шапкі.

— Хто гэта вас так прыгалубіў? — пытаюся.

— Ды палітыка, каб яе халера.

— Ого! — здзівіўся я. — За што ж такая ўзнагарода?

— За цікаўнасць, — цяжка ўздыхнуў дзядзька Раман. — Ī трэ ж было мне тэлевізар цэлы дзень глядзець. А там якраз дэпутаты нейкія ўсё сварыліся. Ды ўсё неяк мудрагеліста — аж паслухаць прыемна. Асабліва ж запалі мне ў душу словы пра тое, што Вярхоўны Савет згубіў сваю легітымнасць. Што гэта за штука, думаю, якую цэлы Савет згубіць можа? А тут якраз жонка ад суседа прыйшла — прас пазычыла. Я ўзяў ды ляпнуў ёй:

— Спадзяюся, Ганна, ты яшчэ не згубіла сваю легітымнасць?

А Ганна мая — баба гарачая, і замест адказу як лясне мяне па галаве прасам!

**У. БЫЧЭНЯ**
*("Чырвоная змена")*

*М. АХРАМЧУК*

**ЯЗЫК**

Сказаў урач, пацёршы скроні,
Нібыта з іх выцягваў цвік,
Што ў хворага
Яму сягоння
Не падабаецца язык.

На што ўрачу
Прамовіў хворы
Ці то ў злосці, ці ў журбе,
Што тое ж самае сягоння
Яму сказалі ў КДБ.

*ЮРАСЬ КАЎШАР*

**НЕ ПАЛІГЛОТ**

Не тульскі, нат не арэнбурскі, —
Радзіма — іншая зямля,
На мове ён гаворыць рускай,
Але на роднай — немаўля.

## ЖАРТАЧКІ

Афіцэр прыйшоў дадому, лёг на канапу і кажа жонцы:

— Прынясі мне газету.

— А чароўнае слова?

— Бегма!

* * *

Цягнік набліжаецца да тунеля. У купэ сядзяць малады мужчына і старая, непрыгожая манашка, якая кажа:

— Калі вы паспрабуеце мяне пацалаваць — то я буду крычаць.

— Я таксама!

* * *

Муж гаворыць жонцы:

— Я зараз лягу спаць, а калі пажадаю выпіць піва, ты мяне разбудзі.

— А як я даведаюся, калі ты пажадаеш?

— Ты толькі разбудзі!

* * *

Маладыя падыходзяць да гатэля.

— Любы, давай зробім выгляд, што мы жанатыя шмат гадоў.

— Добра, мая каханая, але ці дацягнеш ты ўсе чатыры чамаданы.

* * *

У чарзе за каўбасой мужчына — жанчыне:

— Нешта я не памятаю, каб вы тут стаялі.

— Калі не памятаеце, дык гэта завецца склероз, а пры склерозе есці каўбасу шкодна для здароўя.

* * *

— Яшчэ ніхто не аблупіў яечка знутры, — заўважыў кухар.

— А кураня? — спытала афіцыянтка.

* * *

— Я міруся з усімі тваімі звычкамі: і з тым, што ты ўвесь час трымаеш рукі ў кішэнях, і з тым, што калі сядзіш — закідаеш ногі на стол, але я цябе вельмі прашу выконваць маю адзіную просьбу.

— Якую?

— Вымай папяросу з рота, калі цалуеш мяне.

*Падборку зрабіў*
*ЯНКА ЗАРЭЧНЫ*

## СЕНТЭНЦЫІ

Усходы ў пекла страмчэюць паводле вабнасці жанчыны.

* * *

Дабро там, дзе ўпэўненасць і давер, зло — дзе слабасць і страх.

* * *

Канец імчыцца да пачатку, каб у ім сплавіцца.

* * *

Гераізм прысутны тады, калі ў безнадзейнасці не губляеш надзеі.

**БАРЫС РУСКО**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Ты, калі пішаш пра каханне, дык усё найбольш пра нейкія „габарыты" намякаеш і выглядае так, што толькі ў гэтым справа. А я табе кажу, не маеш ты рацыі. Па-мойму, тут справа не ў памерах члена, а ў якасці кахання.

Вось вазьмі майго хлопца. Ён, праўда, не можа пахваліцца, як ты кажаш, занадта вялікімі „габарытамі", але так умее распаліць дзяўчыну, што млець будзеш. Кажу табе, пакуль дойдзе да палавога акту, то ўжо чалавек і гатовы.

Мы пазнаёміліся, калі я ляцела самалётам да маёй сястры, якая працавала аж у Афрыцы. Дарога была даволі доўгая. Я ляцела ўпершыню самалётам і, прызнаюся, крыху баялася. Ён сядзеў якраз каля мяне. Таксама кіраваўся ў Афрыку, да сябра. Я мела правесці цудоўны месяц ля ракі Конга, ён — на Ніле.

Хлопец аказаўся вельмі далікатны. Бачачы, што я баюся, пачаў расказваць мне нейкія смешныя здарэнні, пасля анекдоты. Я зусім забылася, што лячу самалётам. Накрываў мае калені пледам, усміхаўся, нахіляўся да мяне і заглядаў мне ў вочы. Узяў мяне за руку. Пачаў гладзіць маю далонь. Пасля пацалаваў яе. Цалаваў кожны пальчык, і я адчувала, як праз маё цела праходзіць ток. Я ляжала на раскладзеным крэсле, і мне было так цудоўна, як ніколі ў жыцці, а ён туліў і накрываў мяне.

У пэўным моманце я адчула, як роскаш прашыла маё цела. Ніколі не думала, што можа быць аж так добра без палавых зносін.

Калі я вярнулася дахаты, мы сустракаліся ўжо пастаянна (жывем якраз у адным горадзе). Мушу, даражэнькая, прызнацца табе, што пры першых палавых зносінах я перажыла шок. „Там" было ў яго нешта такое маленечкае, нейкае недаразвітае, што цяжка нават было яго заўважыць. Ī тым не менш хлопец рабіў усё капітальна.

З ім найважнейшай была тая „прэлюдыя", тая гульня ў каханне. Пакуль ён спалучаўся са мною, я ўжо некалькі разоў перажывала аргазм. Мне ўжо тады было ўсё роўна, які ў яго член — малы, вялікі, тоўсты ці тонкі, крывы ці прамы. Я ўся была распалена, як вугаль. Мне ўсё было прыемна.

Ī вось уяві сабе, мілае, што я збіраюся выходзіць замуж. За яго! Як ты мне раіш, будзе з яго добры муж, ці не? Мне здаецца, што яго далікатнасць не ведае межаў і будзе ён такі заўсёды. Дзе я яшчэ такога другога знайду?!. Адкажы, парай!

**Ёлька**

Мілая Ёлька! Такі ён далікатны, што аж заделікатны. „Прэлюдыя" ў каханні — справа вельмі важная, але адной прэлюдыі табе, баюся, надоўга не хопіць. Будзе добра і цудоўна, пакуль не трапіш на лепшага. Ёсць жа такія, што і „перад" і „ў часе" бываюць цудоўныя.

Гэта наконт яго як каханка. Але як муж, як бацька сям'і можа быць вельмі адпаведны.

**СЭРЦАЙКА**